ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№5 (62) май 2016 год
CATHOLICNEWS.BY

# Ксёндз-байкер асвяціў матацыклы ў Віцебску



**Мерапрыемства адбылося ў суботу 14 мая. Яно было арганізавана па ініцыятыве ксяндза-байкера Андрэя Аніскевіча, які зараз з'яўляецца пробашчам Віцебскай катэдры.**

У ёй удзельнічалі байкеры з Віцебска, Лепеля, Полацка, Наваполацка і іншых гарадоў. Усяго на сустрэчу прыехала каля трох дзясяткаў аматараў матацыклаў.

У палову на дванаццатую калона матацыклаў у суправаджэнні ДАІ накіравалася да Віцебскай катэдры. Пасля таго, як байкеры паставілі сваіх жалезных коней, яны зайшлі ў катэдральны касцёл Езуса Міласэрнага.

Мерапрыемства ў святыні распачалося ў 12 гадзін з гімна "Магутны Божа". З рук біскупа Алега Буткевіча байкеры атрымалі бласлаўленне на новы байкерскі сезон. У катэдры прайшла невялікая канцэртная праграма, дзе былі выкананыя кампазіцыі на рэлігійныя тэмы. Таксама ўдзельнікі памаліліся за тых, хто загінуў у дарожна-транспартных здарэннях.

Пасля ксёндз Андрэй Аніскевіч асвяціў матацыклы і запрасіў удзельнікаў у парафіяльную кавярню, дзе можна было пагутарыць адзін з адным за кубачкам кавы або гарбаты.

***Зміцер Лупач**, тэкст;*
***Марына Сінкевіч**, фота*

## Беларускі семінарыст адправіцца на місію ў Афрыку


Стар. 8

## Ці цяжка вучыцца ў семінарыі?

*Чытайце на стар. 13*

## Фэст у гонар св. Андрэя Баболі разам з байкерамі


Стар. 6

## Абвяржэнне міфа, або Хто прыдумаў "цёмнае Сярэднявечча?"


Стар. 7





# Жаночае святарства ў Касцёле?

**Сустрэча Папы Францішка з законніцамі з усяго свету адбылася 12 мая 2016 г. у Ватыкане. Падчас аўдыенцыі больш чым 800 сясцёр, якія ўдзельнічалі ў пасяджэнні Міжнароднага аб'яднання генеральных настаяцельніц, мелі магчымасць звярнуцца да Святога Айца з пытаннямі і атрымаць прамы адказ ад бачнага галавы Касцёла.**

**а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*



Сярод узнятых праблемаў асобнай групай вылучаюцца пытанні адносна права жанчын прапаведаваць на Імшы ды допуску жанчын да пастаяннага дыяканату на ўзор старажытнага Касцёла, што мае непасрэдныя адносіны да пытання пра магчымасць жаночага святарства.

### Святарства – місія мужчын

Дадзеная тэма не ўпершыню ўздымаецца ў Каталіцкім Касцёле ў апошнія дзесяцігоддзі. Тэму жаночага святарства разглядаў таксама св. Ян Павел II. Каталіцкі Касцёл, допускаючы да святарства толькі мужчын, грунтуецца на тым, што на Тайнай Вячэры, калі Хрыстос наказваў вучням здзяйсняць Эўхарыстыю, прысутнічалі толькі дванаццаць апосталаў.

Менавіта Эўхарыстыя ў найбольшай ступені выражае сабой адкупленчы акт Хрыста-Жаніха ў адносінах да Яго Нявесты-Касцёла. Відавочна, сэнс ёсць у тым, што здзяйсненне сакраманту Эўхарыстыі, пры якім святар дзейнічае "ў асобе Хрыста", ажыццяўляецца мужчынам. У такой інтэрпрэтацыі мужчынскае святарства мае сімвалічны сэнс: адкупленчая ахвяра Хрыста разглядаецца як "мужчынская" (ахвяра Жаніха), і таму яе сімвалам выступае служэнне святара-мужчыны.

Адказваючы на пытанні пра магчымасць прапаведавання жанчынамі ў Касцёле, Папа Францішак заявіў, што няма ніякіх падстаў, каб жанчына, свецкая верніца або кансэкраваная, не магла б прапаведаваць падчас Літургіі слова. Аднак паколькі святарскага пасвячэння не ўдзяляецца жанчынам, яны не могуць прамаўляць гаміліі (тлумачэнне Святога Пісання падчас святой Імшы).

### Дыяканэсы ранняга Касцёла

Больш неадназначным з'яўляецца пытанне адносна пастаяннага дыяканату для жанчынаў. Папа адзначыў, што роля так званых дыяканэс у раннім хрысціянстве не зусім зразумелая. "Я спытаюся ў Кангрэгацыі веравучэння, ці былі праведзены даследаванні па гэтым пытанні, і даручу заснаваць афіцыйную камісію для яго вывучэння. Думаю, што Касцёл толькі выйграе ад высвятлення гэтага пытання", – сказаў Святы Айцец.

Ранні Касцёл у пэўны момант сутыкнуўся з праблемай. Калі ён у дастатковай меры вырас колькасна, апосталы, не могучы выконваць усе служэнні ў ім, заявілі, што жадаюць засяродзіцца на малітве і служэнні словам. Яны папрасілі вернікаў абраць людзей для выканання функцый, якія мы цяпер называем дыяканскімі. Важны факт адзначыў Папа Францішак у выступе перад амерыканскімі біскупамі ў Філадэльфіі ў верасні мінулага года, што дыяканат – гэта вынаходніцтва Касцёла. Тое, што было заснаванае Касцёлам, можа быць тым жа Касцёлам зменена.

Дыяканат – гэта асобнае служэнне, якое папярэднічае святарству, пры тым, што дыяканы не з'яўляюцца святарамі. Прыняцце сану дыякана зусім не азначае, што гэты чалавек аўтаматычна атрымлівае права ў будучыні стаць святаром. Самыя раннія формы служэння жанчындыяканаў распаўсюджваліся на іншых жанчын і на дзяцей: жанчыны-дыяканы дапамагалі падчас хросту жанчын (лічылася непрыстойным, каб мужчына памазваў жанчыну); жанчыны-дыяканы катэхізавалі жанчын і дзяцей; жанчыны-дыяканы падтрымлівалі парадак у жаночай палове богаслужбовага сходу і дзяжурылі каля дзвярэй, праз якія ўваходзілі жанчыны; жанчыны-дыяканы наведвалі хворых жанчын і памазвалі іх асвечаным алеем.

Сёння практычна ўсе адмыслоўцы ў гісторыі Касцёла згодныя з тым, што жанчыны, названыя дыяканамі, а пазней – дыяканэсамі, былі носьбіткамі служэння, але сур'ёзныя рознагалоссі існуюць адносна іх сакрамантальнага пасвячэння. Менавіта гэтыя супярэчныя моманты і павінна будзе даследаваць багаслоўская камісія, пра стварэнне якой казаў Святы Айцец падчас сустрэчы з законніцамі.

# Папа Францішак прызначыў новага Апостальскага Нунцыя ў Беларусі

**13 мая 2016 года Папа Францішак прызначыў новым Апостальскім Нунцыем у Беларусі кс. Габара Пінтэра, надаючы яму адначасова годнасць арцыбіскупа.**



Новы дыпламатычны прадстаўнік Святога Айца ў краіне нарадзіўся ў венгерскім горадзе Куншэнтмартон 9 сакавіка 1964 г. Атрымаў святарскае пасвячэнне 11 чэрвеня 1988 г. Пачаў службу ў ватыканскай дыпламатыі 1 ліпеня 1996 г. і працаваў у дыппрадстаўніцтвах Святога Пасаду на Гаіці, у Балівіі, Швецыі, Францыі, на Філіпінах і ў Аўстрыі.

Новы Апостальскі Нунцый у Беларусі ведае венгерскую, італьянскую, англійскую, нямецкую, іспанскую, французскую, рускую, шведскую і крэольскую мовы.

Мансеньёр Габар Пінтэр змяніў на пасадзе Апостальскага Нунцыя ў Беларусі арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроці. 13 лістапада 2015 г. Святы Айцец прызначыў італьянскага іерарха Апостальскім Нунцыем на Украіне. Да гэтага ён выконваў дыпламатычную місію ў Беларусі на працягу чатырох з паловай гадоў.

*Ватыканскае радыё*

# Як не баяцца смерці?

***"Я баюся смерці. У мяне ўсё ў парадку, я здаровы, малады. Але панічна баюся памерці. Я вернік. Але смерць мяне палохае. Як мне перамагчы свой страх? Ці, можа, гэтага не трэба рабіць?"***

*Віктар*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Смерць не з'яўляецца нечым прыродным для чалавека. Мы былі створаныя Богам для вечнага жыцця, і гэтае прагненне застаецца ў глыбіні нашай сутнасці. Аднак «як праз аднаго чалавека грэх увайшоў у свет, і праз грэх – смерць, гэтак і смерць перайшла на ўсіх людзей, бо ўсе людзі зграшылі» (Рым. 5, 12), «бо заплата за грэх – смерць» (Рым. 6, 23). Мы знаходзімся ў стане, калі нашая душа перажывае сваю несмяротнасць, але грэх стаў прычынай смяротнасці нашага цела.

Цалкам лагічна: людская сутнасць супрацiўляецца такому непрыроднаму стану рэчаў. Смерць непрыродная, калі мець на ўвазе, якімі нас стварыў Бог. «Хоць чалавек і меў смяротную прыроду, Бог прызначыў яму не паміраць. Такім чынам, смерць супярэчыла задуме Бога-Творцы і ўвайшла ў свет як наступства граху» (ККК 1008). Разам з тым смерць цяпер з'яўляецца непазбежным і неабходным элементам нашага збаўлення. Гэта новы аспект нашага існавання ў гэтым свеце дзякуючы ўцелаўленню і смерці Божага Сына Езуса Хрыста і якога не было да гэтага. «Дзякуючы Хрысту хрысціянская смерць набыла станоўчы сэнс» (ККК 1010). Без Хрыста смерць была страшнай з'явай, поўнай адчаю і бессэнсоўнай. Як пісаў у часы Старога Запавету Эклезіяст, «доля ў сыноў чалавечых і доля ў жывёлін – доля адна; як паміраюць тыя, так паміраюць і гэтыя, і адно дыханне ва ўсіх, і няма ў чалавека над жывёлінаю перавагі, бо ўсё – марнасць!» (Экл. 3, 19). Але цяпер наша становішча змянілася: «Бо для мяне жыццё – гэта Хрыстос, і смерць – здабытак» (Флп. 1, 21).



У смерці Бог заклікае чалавека да Сябе. Таму хрысціянін можа адчуваць у адносінах да смерці такое жаданне, якое адчуваў апостал Павел: «Жадаю адысці і быць з Хрыстом, бо гэта нашмат лепшае» (Флп. 1, 23).

Смерць палохае чалавека сваёй невядомасцю, нявызначанасцю. Але цяпер у смерці ёсць надзея, ёсць святло. Да гэтага святла мы ідзём і дзеля яго мы жывём тут. Мы жывём у свеце, будучы створаныя не для гэтага свету. Смерць – гэта дар, які вызваляе нас ад кайданаў, у каторыя нас закаваў грэх. Смерць – гэта канец нашага бегу, нашага змагання: «Кожны, хто ідзе ў спаборніцтва, усяго сябе адмаўляе; яны – каб атрымаць вянец знішчальны, а мы – незнішчальны» (1 Кар. 9, 25).

Тое, што дазваляе нам пазбавіцца ад страху перад смерцю, – гэта вера і любоў да Бога. «У любові няма страху, бо дасканалая любоў вон выганяе страх, бо страх мае ў сабе кару. Хто баіцца, той не дасканалы ў любові» (1 Ян. 4, 18).

# Святыя Місіі ў Дзеркаўшчынскай парафіі

**Святыя Місіі праходзілі з 1-га па 8-га мая. Праводзілі іх айцы-рэдэмптарысты з Гродзенскай дыяцэзіі Анджэй Ядкоўскі і Валерый Мазюк.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*



На час Місій пробашч касцёла Андрэй Кулік перадаў місіянерам уладу ў касцёле, уручыўшы ім святарскія стулы і ключ ад святыні.

Трэба адзначыць, што апошні раз святыя Місіі былі ў Дзеркаўшчыне ў далёкім 1938 годзе, таму для ўсіх вернікаў парафіі гэта быў перыяд асаблівай Божай ласкі. Падчас Місій адбываецца аднаўленне веры ў парафіі, вернікі яшчэ больш навяртаюцца да Пана Бога.

Місіі звычайна праходзяць на працягу васьмі дзён. Айцец Анджэй Ядкоўскі патлумачыў гэта так: "Мы як айцы-рэдэмптарысты праводзім фундаментальныя Місіі, што закладаюць падмурак веры чалавека. І нават васьмі дзён тут замала. Гэта такі неабходны мінімум, каб пазнаць Божую любоў, адкрыцца на яго міласэрнасць".

Падчас гэтых васьмі дзён адбываліся заняткі для дзяцей, моладзі, бацькоў, для людзей пажылых і хворых.

У аўторак пробашч касцёла ксёндз Андрэй Кулік ляжаў крыжам каля алтара, каб перапрасіць Бога за свае грахі і грахі парафіі. Ён таксама папрасіў прабачэння за свае грахі ў парафіянаў. Шмат у каго гэта выклікала слёзы на вачах.

У сераду адбыўся Крыжовы шлях па вуліцах Дзеркаўшчыны, а ў пятніцу праводзілася аднаўленне сужэнскай прысягі. Вернікі парафіі падчас святых Місій вельмі палюбілі Марыйны Заклік – вечаровае набажэнства са свечкамі ў гонар Маці Божай.

Паводле слоў ксяндза Андрэя, ён вельмі хваляваўся перад пачаткам Місій, ці шмат вернікаў будзе хадзіць на працягу гэтага тыдня ў касцёл. Але парафія паказала сябе з самага лепшага боку: святыня ўвесь час была запоўненая людзьмі. У касцёл прыходзілі нават тыя парафіяне, якія звычайна рэдка наведваюць храм.

У нядзелю, 8 мая, адбыўся апошні дзень парафіяльных Місій. У гэты дзень перад касцёлам быў пастаўлены і асвечаны крыж у памяць аб святых Місіях. Таму святая Імша распачалася з працэсіі вакол касцёла. Мужчыны ўзялі на плечы місійны крыж і пранеслі вакол касцёла. Вернікі ў гэты час неслі у руках свае малыя крыжы. Пасля працэсіі крыж быў урачыста ўсталяваны перад касцёлам.

Потым святары і вернікі зайшлі ў святыню, дзе адбыўся працяг святой Імшы. Слова да вернікаў прамовіў айцец Валерый Мазюк. Ён заклікаў вернікаў абвяшчаць Божае слова сваім родным, суседзям, аднавяскоўцам, жыць паводле Божых запаведзяў і не саромецца сваёй веры. У прыватнасці, ён адзначыў: "Калі пробашч прасіў прабачэння ў вас за свае грахі, бо ніхто з нас не з'яўляецца анёлам, шмат у каго на вачах я бачыў слёзы. Але іх не трэба было саромецца – гэта блаславёныя слёзы. Бо гэта знак таго, што Бог дакрануўся да вашых сэрцаў, Ён увайшоў у ваша жыццё".

Напрыканцы набажэнства вернікі атрымалі блаславенне ад айцоў-рэдэмптарыстаў, а таксама поўны адпуст, умовай атрымання якога быў удзел у святых Місіях, споведзь і малітва ў інтэнцыях Папы Францішка.

Пасля гэтага айцы Анджэй і Валерый уручылі ксяндзу Андрэю Куліку святарскія стулы і ключ ад касцёла. Гэта азначала, што яны зноў перадалі ўладу ў парафіі пробашчу.

Ксёндз Андрэй Кулік пасля заканчэння Місій адзначыў: "Святыя Місіі ў Дзеркаўшчыне для мяне як для пробашча – гэта знак таго, што мы рухаемся наперад, развіваемся ў сваёй веры, хочам пазнаць Бога. Колькасць людзей, якія прыходзілі ў гэтыя дні ў касцёл, паказала, што гэта вельмі важна для іх. Яны цікавяцца рэлігіяй, цікавяцца Богам, хочуць паглыбіць свае веды пра Яго".

А айцы-рэдэмптарысты ўжо ў бліжэйшую нядзелю, 15 мая, распачалі святыя Місіі ў Слоніме.







# Урачыстае адкрыццё касцёла ў Дуброўне

**Падзея адбылася 26 красавіка падчас дыяцэзіяльнай сустрэчы святароў і кансэкраваных асоб з біскупам Алегам Буткевічам.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Доўгі час католікі Дуброўна не мелі магчымасці не толькі маліцца ў сваім касцёле, але нават не маглі сабрацца разам, каб правесці святую Імшу.

Адраджэнне парафіі пачалося на пачатку XXI стагоддзя. Спачатку вернікі збіраліся на малітву ў прыватных дамах ці кватэрах, а потым было вырашана пабудаваць свой храм. Цяперашні пробашч парафіі ксёндз Уладзімір Шымковіч выказвае ўдзячнасць сваім папяраднікам, якія тут працавалі. Ён прыняў парафію пяць гадоў таму, калі на месцы будоўлі быў хіба заліты падмурак. І вось за два гады ў Дуброўне паўстала прыгожая святыня.

Вядома, што ў Пінску значна большы касцёл пабудавалі за пяць месяцаў, але тут такое параўнанне не падыходзіць. Калі ў Пінску больш за дваццаць тысяч католікаў, то ў Дуброўне на нядзельную Імшу прыходзіць звычайна дванаццаць чалавек. І калі на захадзе нашай краіны некаторыя касцёлы не былі зачыненыя нават у часы ваяўнічага атэізму, то на ўсходзе доўгі час не было ні аднаго (!) дзейнага храма. Таму будаўніцтва касцёла Маці Божай Фацімскай без перабольшвання можна назваць духоўным подзвігам, які здзейснілі вернікі разам са сваім пробашчам.

Пробашч парафіі выказаў удзячнасць мясцовым уладам, чые прадстаўнікі не толькі прыйшлі на ўрачыстасць, але і актыўна дапамагалі ў будаўніцтве. Прыемна было і тое, што біскупа Віцебскай дыяцэзіі Алега Буткевіча раённыя ўлады ўрачыста сустрэлі на мяжы Аршанскага і Дубровенскага раёнаў.

Хацелася б адзначыць, што на свята прыйшлі не толькі католікі, але і праваслаўныя вернікі, якія вельмі прыхільна паставіліся да гэтай падзеі.

Урачыстую Імшу ўзначаліў біскуп Алег Буткевіч. Ён акрапіў вернікаў і сцены храма святой вадой, а таксама атрымаў з рук вернікаў сімвалічны ключ ад касцёла. Падчас урачыстай Імшы іерарх удзяліў сакрамант канфірмацыі, або хрысціянскай сталасці, траім вернікам.

У сваім слове да святароў і вернікаў кіраўнік дыяцэзіі адзначыў, што каталіцкая супольнасць паўстала ў Дуброўне не на пустым месцы. Раней тут быў касцёл і кляштар бернардынцаў. Ад будынкаў храма ўжо нічога не засталося, але карані веры на гэтай зямлі засталіся. Біскуп параўнаў касцёл на ўсходзе з дрэвам. Нават калі зрэзаць крону, то з каранёў, якія знаходзяцца глыбока ў зямлі, дрэва можа аднавіцца. Так і зараз: тыя невялікія каталіцкія супольнасці – гэта як першыя парасткі, якія пры спрыяльных умовах могуць ператварыцца ў магутнае дрэва.

Напрыканцы біскуп падзякаваў ксяндзу Уладзіміру Шымковічу за завяршэнне будаўніцтва касцёла. Пробашч, у сваю чаргу, выказаў падзяку кіраўніку дыяцэзіі за падтрымку, мясцовым уладам і арганізацыям, якія актыўна дапамагалі ў будаўніцтве храма, сваім парафіянам – за духоўную і матэрыяльную дапамогу. Цёплыя словы ўдзячнасці прагучалі ў адрас інжынера-будаўніка Пятра Крывашэева, які кіраваў гэтай будоўляй і присутнічаў на ўрачыстасці. Таксама ксёндз Уладзімір выказаў словы падзякі сваім папярэднікам, каторыя тут працавалі, у прыватнасці, ксяндзу Андрэю Драгуну, што пачынаў будаўніцтва.

Каля святыні яшчэ шмат працы: трэба добраўпарадкаваць тэрыторыю, паставіць прыгожы плот. Але ёсць упэўненасць, што вернікі Дуброўна разам са сваім пробашчам з гэтай працай паспяхова справяцца. І да часу, калі адбудзецца ўрачыстая кансэкрацыя, касцёл будзе выглядаць прыгожа і годна, як і належыць каталіцкай святыні.



# Дыяцэзіяльнае спатканне міністрантаў у Паставах



**Юбілейная сустрэча міністрантаў у межах Года Міласэрнасці адбылася ў суботу, 7 мая. Яна сабрала хлопцаў з Браслава, Глыбокага, Полацка, Мёраў, Пастаў, Лучая і іншых парафій.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Распачалося мерапрыемства з канферэнцыі, якую правёў арганізатар сустрэчы ксёндз Аляксандр Грыцкевіч. У сваім звароце да міністрантаў ён адзначыў важнасць служэння Богу пры алтары. Гэтая сустрэча была прысвечана разважанню над словамі Хрыста: "Не супакой Я вам прынёс, але меч".

Як адзначыў ксёндз Аляксандр, "сёння мы разважалі на тэму, што такое быць рыцарам Хрыста. Менавіта над тымі словамі, дзе Хрыстос кажа "не супакой Я вам прынёс, але меч". І вось гэтым мячом ёсць Божае слова, якое Пан Бог спасылае кожнаму з нас, каб з Божым словам, як з мячом, што перамагае кожнае зло, крочыць па жыцці".

Святар падкрэсліў, што і сёння ідзе вайна за сэрцы вернікаў, у сённяшнім свеце, як ніколі раней, шмат розных спакус, і ў гэты няпросты час нам трэба захаваць сваю веру.

Пасля канферэнцыі адбылася святая Імша, якую ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. У сваім слове да міністрантаў ён звярнуў увагу на міністранцкае служэнне, пра важную ролю мужчыны ў касцёле. Ён адзначыў, што меч з'яўляецца сімвалам барацьбы. І ў першую чаргу, гэта барацьба павінна быць з самім сабой, бо той, хто перамагае сябе, можа разлічваць і на перамогу над іншымі.

Дарэчы, біскуп прамаўляў да міністрантаў не з амбоны, але выйшаўшы на сярэдзіну касцёла, чым падкрэсліў, што ён звяртаецца да іх не як іерарх, а як калега, як сябар.

Таксама біскуп звярнуў увагу на тое, што якраз сярод міністрантаў бывае найбольш пакліканняў: "Калі чалавек з маладых гадоў служыць пры алтары, у яго ёсць больш шанцаў распазнаць сваё пакліканне, каб і надалей служыць Пану Богу пры алтары ўжо ў якасці святара".

Пасля Імшы адбыўся абед, потым прайшлі спаборніцтвы сярод парафіяльных каманд па міні-футболе. Выйгралі спаборніцтва гаспадары, якія ўдзельнічалі ў турніры дзвюма камандамі. Гэтыя каманды і занялі першае і другое месцы. А трэцяе заваяваў калектыў з Браслава. Дарэчы, браслаўскія хлопцы паспелі і ў сустрэчы міністрантаў паўдзельнічаць, і ў Браславе прыняць удзел у конкурсе танца, у якім разам з дзяўчатамі занялі першае месца.

Карэспандэнты "Каталіцкага Весніка" спыталі ў біскупа Алега Буткевіча, які прысутнічаў на спаборніцтвах, як звязаны між сабой спорт і малітва. Ён адказаў: "Чалавек – істота цялесна-духоўная. І як адзін, так і другі бок пакліканы да развіцця. І калі духоўнае развіццё адбываецца праз малітву, то фізічнае – праз спорт і працу. І абавязкам чалавека ёсць развіваць гэтыя бакі".

Пасля міні-футбольнага турніру адбылася заключная канферэнцыя. Пазней міністранты раз'ехаліся па сваіх парафіях, каб дапамагаць святарам у служэнні пры алтары.



# Конкурс танца сярод моладзі Віцебскай дыяцэзіі

**У суботу, 7 мая, у Браславе прайшоў конкурс танца сярод моладзі Віцебскай дыяцэзіі. Задумана мерапрыемства было па ініцыятыве саміх маладых людзей.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч,** *фота*

Як адзначыла арганізатар конкурсу сястра Тацццяна Гмыза SJE, "моладзь вельмі прасіла правесці такі конкурс. Калі быў конкурс песні ў Мёрах, яны вельмі хацелі, каб прадставіць сябе і танцам".

Сярод вернікаў існуе думка, што касцёл і танцы – рэчы несумяшчальныя. Але і духоўныя асобы, што былі на мерапрыемстве, і сама моладзь даказвалі, што гэта не так. У танцы раскрываюцца пачуцці чалавека, яго ўнутраны свет. І гэтыя рэчы цяжэй падрабіць, бо яны выходзяць з сэрца чалавека, з глыбіні яго душы. Таму славіць Бога танцам не толькі можна, але і патрэбна.

У конкурсе прынялі ўдзел пяць камандаў: з Глыбокага, Мёраў, Варапаева і Браслава. Браслаў як гаспадар мерапрыемства выставіў дзве каманды – малодшага і старэйшага ўзросту.

Распачалася імпрэза а 18 гадзіне з малітвы ў касцёле. Моладзь прыгожым спевам і малітвай праслаўляла Пана Бога. Прыемна было бачыць у касцёле столькі моладзі. З гэтага відаць, што будучыня ў Каталіцкага Касцёла ў Беларусі ёсць.

Пасля малітвы ўдзельнікі перайшлі ў парафіяльны дом, дзе і распачаўся сам конкурс. Настрой усім узняла ўдзельніца конкурсу Яна Піртань, якая выканала прыгожую песню, каторай праслаўіла Бога. Вядоўца імпрэзы Анжэла Пілат аб'явіла склад журы, куды ўвайшлі Ганна Базарэвіч, Ірына Гайдамовіч і ксёндз Андрэй Бочар.

Пасля гэтага адбылося лёсаванне – прадстаўнікі ад кожнай каманды выцягнулі нумар, згодна з якім яны павінны былі выступаць. Першымі выступала каманда з Мёраў, потым малодшая група з Браслава. Пасля іх – танцоры з Варапаева, потым – старэйшая група з Браслава. Апошняй, пятай, выступіла каманда з Глыбокага.

Конкурс складаўся з трох намінацый. Спачатку каманды прывіталі гледачоў сваім танцам на вольную тэму, у другой частцы калектывы паказалі парны танец, а ў апошняй намінацыі ўдзельнікі прадставілі танец-флэшмоб.

Выступленні кожнай каманды былі прыгожымі і непаўторнымі, нягледзячы на тое, што маладыя людзі не прафесійныя танцоры. Арыгінальным стаў выступ прадстаўнікоў з Глыбокага, Мёры здзівілі гледачоў сваім флэшмобам пра перамогу дабра над злом, а малодшая каманда з Браслава спадабалася ўсім сваім вясёлым настроем, які перадаўся і гледачам. Танцоры з Варапаева выканалі танец у стылі рок-н-ролу, а старэйшая каманда з Браслава запомнілася ўсім сваім парным танцам.

Журы цяжка было вызначыць пераможцу, але ўсё ж першае месца прысудзілі гурту з Браслава "Dream Team", у які ўваходзіла моладзь старэйшага ўзросту. Другое месца заняла каманда з мёрскай парафіі, а трэцяе – калектыў "Дзеці Хрыста" з Варапаева.

Каманда з Глыбокага была прызнана самай арыгінальнай, а гурт "Сіняе вока", які аб'ядноўваў малодшых браславян, самым вясёлым.

Усе ўдзельнікі атрымалі прызы, а таксама дыскі з беларускімі танцамі ад Ганны Базарэвіч. Пасля конкурсу і пачастункаў прайшла маладзевая дыскатэка, падчас якой юнакі і дзяўчаты змаглі адпачыць і бліжэй пазнаёміцца адно з адным.

На думку арганізатараў, такія мерапрыемствы трэба праводзіць часцей, бо, нягледзячы на тое, што моладзь пастаянна мае між сабой зносіны ў сацыяльных сетках, такія "жывыя" сустрэчы вельмі важныя.







## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ядвіга Кісель** *(Вілейка)*, **Валянціна Шчановіч** *(Паставы)*, **Малгажата Бервячонак** *(в. Варанцы, Глыбоцкі р-н)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Феліцыя Небышынец** *(в. Дубовы Лог)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **парафіяне з Задарожжа**, **Аліна і Францішак Камянецкія** *(Докшыцы)*, **Алена Сакалоўская** *(в. Павяцце)*, **Вераніка Абуховіч** *(в. Дунілавічы)*, **Ганна Карніловіч** *(в. Шунеўцы)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Данута Мароз** *(в. Лонская)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
*вул. Савецкая, 1*
*211800 г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

# Фэст у гонар св. Андрэя Баболі разам з байкерамі

**14 мая ў парафіі святога Юды Тадэвуша, апостала ў Лучаі, што на Пастаўшчыне, адбылася адпустовая ўрачыстасць у гонар святога Андрэя Баболі. Пакутнік Палесся, які лічыцца апекуном Беларусі, штогод асаблівым чынам ушаноўваецца ў лучайскай святыні.**

■ **Алена Клімза-Колтан**, *тэкст;* **Сяргей Вшыўкоў**, *фота*

Перад абразом палымянага прапаведніка, місіянера, «душахвата» – усе гэтыя эпітэты тычацца святога Андрэя Баболі, – распачалася Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Адарацыя суправаджалася спяванай Ларэтанскай літаніяй да Маці Божай, таксама вернікі мелі магчымасць адараваць Пана Езуса ў Найсвяцейшым Сакраманце з адмысловымі разважаннямі і спевамі.

Асаблівым чынам у падрыхтаваных разважаннях была закранутая тэма трагічнага часу, у якім дзейнічаў і прыняў пакутніцкую смерць святы. «Андрэй Баболя жыў у часе, што быў, як і сённяшні, разначаны рознымі падзеламі. Але ён не быў абыякавым да наступстваў гэтых падзелаў. Айцец Баболя распачаў канкрэтныя дзеянні, каб аднаўляць страчаную еднасць. І, хаця падаецца, што з чалавечага гледзішча ён прайграў, бо спазнаў жорсткае пакутніцтва, – насамрэч яго служэнне зазнала самы шумны трыумф».

Адпустовую святую Імшу, якая распачалася ўрачыстай працэсіяй святароў з міністрантамі, узначалілі ксёндз Раман Мурзіч з Параф'янава і пробашч лучайскай парафіі ксёндз Мікалай Ліпскі. Іншыя святары-госці з суседніх парафіяў – ксёндз Андрэй Возьняк з Паставаў і ксёндз Андрэй Кулік з Дзеркаўшчыны – дапамагалі вернікам ачысціць свае душы ў сакраманце пакаяння.



У гаміліі ксёндз Раман Мурзіч спалучыў развагі на дзве святочныя тэмы – Спаслання Духа Святога і жыццяпісу Андрэя Баболі. Нагадваючы пра пакутніцкі шлях святога, ксёндз Мурзіч таксама зрабіў акцэнт на адзінстве, якое імкнуўся сеяць сваімі словамі святы Андрэй Баболя.

У працэсіі да алтара падчас святой Імшы гэтым разам з традыцыйнымі дарамі – крыжам, хлебам, віном, гостыяй, кветкамі, – прадстаўнік ад байкераў нёс да алтара сімвалічную мадэль матацыкла: у гэты дзень у Лучай завіталі шматлікія байкеры з наваколля, каб з Богам распачаць новы мотасезон. Аматары матацыклаў з Паставаў, Варапаева, Глыбокага, Шаркаўшчыны, Віцебска, Полацка, Вілейкі, Браслава прыехалі асвяціць свае транспартныя сродкі. "Не ўсе з іх пабожныя, нехта думае – гэта як абярэг, калі вырашае паехаць "пасвяціць матацыкл". Але ж шлях да Бога пачынаецца з малага", – лічыць святар з Дзеркаўшчыны кс. Андрэй Кулік.

Пасля заключнай Літаніі да святога Андрэя Баболі і працэсіяй з Найсвяцейшым Сакрамантам вакол святыні вернікі змаглі ўшанаваць рэлiквіі святога – рэлiквіярый з іх часцінкай быў урачыста дастаўлены ў Лучай тры гады таму.

Сёлета лучайскі касцёл адзначыць 250-гадовы юбілей свайго заснавання, таму пробаш і парафіяне актыўна вядуць працы па добраўпарадкаванні парка каля святыні. Чарговым крокам па стварэнні сакральна-паркавага ландшафта сталася асвячэнне чарговай фігуры апостала Тамаша, ахвяраванай верніцай з Шаркаўшчыны Аленай Зорынай.

Лучайскія святы здзіўляюць штораз. Не выключэнне і першы вясновы парафіяльны фэст – атрымаўшы бласлаўленне на новы мотасезон, байкеры на асвечаных матацыклах прадставілі гасцям і тутэйшым вернікам незвычайнае відовішча, дэманструючы рознастайныя піруэты на двухколавых «конях». Таксама ўдзельнікаў святочнага фэсту чакала канцэртная праграма ад ансамбля « Ферцінка» з Полацкага раёну з мілагучнымі спевамі на беларускай, польскай і рускай мовах.

Шмат хто з байкераў наведаў касцёл упершыню ў сваім жыцці, але вынікам візіту матацыклістаў у Лучай стала прапанова не толькі зладзіць такое ж свята на закрыццё мотасезону, але і паўдзельнічаць у фізічных працах па добраўпарадкаванні прыкасцельнай тэрыторыі, – святыня ў Лучаі патрабуе не толькі мужчынскай малітвы, але і мужчынскай працы.

Атрымаўшы традыцыйнае бласлаўленне на шчаслівае вяртанне дахаты ад пробашча Мікалая Ліпскага, вернікі развіталіся з Лучаем, маючы намер наведаць квітнеючы аазіс духоўнага і культурнага жыцця рэгіёна 26 чэрвеня – на Дзень Сям'і, а таксама 23 ліпеня, калі падчас фэста святой Ганны лучайская святыня адзначыць сваё 250-годдзе ад заснавання.

# Міністранты з Верхнядзвінска здзейснілі патрыятычную вандроўку

**У Дзень Перамогі міністранты верхнядзвінскай парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі разам са сваім пробашчам, бацькамі і хлопцамі з мёрскай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка, здзейснілі патрыятычную вандроўку па месцах баёў Другой сусветнай вайны.**

■ **кс. Аляксандр Грыцкевіч**, *тэкст;* **Павел Каскевіч**, *фота*

На тэрыторыі цяперашняга Верхнядзвінскага раёна праходзіла знакамітая "Лінія Сталіна", рэшткі якой захаваліся да нашых дзён. Менавіта па доўгатэрміновых апорных кропках Смулькаўскага ўмацаванага раёна, які прыкрываў пераправу праз Заходнюю Дзвіну, пралягаў маршрут падарожжа.

Перад тым, як накіравацца ў дарогу, удзельнікі вандроўкі разам з ксяндзом Аляксандрам сабраліся на плябаніі, каб пазнаёміцца, абмеркаваць маршрут і даведацца пра гісторыю першых дзён вайны. Цікавы аповед пра геразім нашых салдат прадставіў старшы лейтэнант Павел Марціноўскі, які служыць у пагранічных войсках. Таксама ўдзельнікі даведаліся пра канструкцыю і значэнне абарончых пабудоў.

Пасля тэарэтычнай падрыхтоўкі паступіла каманда «па машынах» і ўсе рушылі ў шлях. Мэтай падарожжа былі ўмацаваныя кропкі, якія размяшчаюцца на правым беразе Дзвіны. Суровая манументальнасць і інжынерная планіроўка канструкцый цытадэляў захоплівалі дух не толькі дзяцей, але і дарослых. Двухметровыя жалезабетонныя сцены ўмацаванняў з вачніцамі байніц уражвалі сваёй моцай і велічнасцю.

Пасля агляду фартыфікацыйных пабудоў удзельнікі экспедыцыі сабраліся на прывал, дзе ўсіх чакала сапраўдная салдацкая каша з дымком і цікавыя размовы каля вогнішча.

Падсілкаваўшыся і адчуўшы баявы дух, хлопцы з вялікай ахвотай прынялі ўдзел у конкурсе на самага трапнага стралка з пнеўматычнага пісталета. Найлепшымі снайперамі аказаліся маладзёны з Мёраў. Пасля спаборніцтваў у стральбе па мішэні праверылі спрыт на трапнасць удараў па варотах. Футбольны матч не выявіў яўнага пераможцу: добрую гульню паказалі міністранты і з Мёраў, і з Верхнядзвінска.

Заканчэнне сустрэчы прайшло ў духу братэрства і сяброўскай згоды. Кожны ўдзельнік мог акунуцца ў атмасферу святкавання Дня Перамогі, а таксама падмацавацца духам патрыятызму і пашаны да гісторыі сваёй Бацькаўшчыны.



# Абвяржэнне міфа,
## або Хто прыдумаў “цёмнае Сярэднявечча?”

**Часта можна пачуць параўнанне каго-небудзь або чаго-небудзь з цёмнымі часамі Сярэднявечча. Наогул у грамадскай думцы і розных стэрэатыпах выпрацавалася нязменнае меркаванне пра цёмнае, цемрашальнае Сярэднявечча.**

**а. Віталь Сапега**, *дамініканін*

Сучасны чалавек атаясамлівае гэты гістарычны перыяд з інквізіцыяй, крыжовымі паходамі, шматлікімі ерасямі, антыпапствам. Прыпамінаецца таксама найвялікшая схізма: падзел на каталіцкую (заходнюю) і праваслаўную (усходнюю) канфесіі. Кажуць яшчэ, што менавіта ў перыяд Сярэднявечча быў навуковы застой. Безумоўна, ва ўсім зле абвінавачваюць хрысціянства, а менавіта каталіцызм. Але думаю, што варта, нягледзячы ні на што, шукаць праўду, якая б яна ні была горкая.

Каб вывучыць які-небудзь гістарычны перыяд, трэба пастарацца бліжэй і глыбей яго пазнаць, беручы пад увагу розныя гістарычныя кантэксты. Наогул паняцце “цёмнае Сярэднявечча” паявілася значна пазней, у часы так званага Асветніцтва. У гэтую эпоху адбылося ўслаўленне чалавечага розуму, назіраўся прыярытэт навукі над рэлігіяй. Лічылася, што Сярэднявечча паўстрымала навуку, пераследуючы між іншым навукоўцаў і ўсе іх перадавыя ідэі. Прапаную пакуль што не браць пад увагу недахопы гэтага гістарычнага перыяду (ведаем, што кожны гістарычны адрэзак адзначаўся сваімі цёмнымі і светлымі старонкамі). Засяродзімся на дасягненнях.

### Гістарычныя перыяды Сярэднявечча

Напачатку варта прыгадаць, калі Сярэднявечча пачалося і калі скончылася. Пачаткам лічыцца 476 год. Менавіта тады адбылося перасяленне варварскіх народаў з поўначы Еўропы і тым самым знікла Рымская Імперыя. Таму, калі мы кажам пра Сярэднявечча, то маем перадусім на ўвазе Заходнюю Еўропу. Вядома, што ўсходняя частка імперыі (візантыйская) праіснавала да 1453 года. Час Сярэднявечча дзеліцца на тры перыяды: ранняе, поўнае (спелае) і позняе. Лічыцца, што гэты гістарычны перыяд заканчваецца з датаю вынаходніцтва друку Ёханэсам Гутэнбергам (1448-1455), адкрыццём Хрыстафорам Калумбам Амерыкі (1492) або зноў жа з моманту знікнення Візантыйскай Імперыі.

З заняпадам Рымскай Імперыі прыйшлі пагрозлівыя, як выдавалася, для грэкарымскай культуры часы. Для Каталіцкага Касцёла таксама настаў час выклікаў. Але ва ўсім гэтым адчувалася воля Госпада Бога. Большасць народаў Еўропы не толькі ўключыліся ў хрысціянства, але з цягам часу стварылі нешта новае і непаўторнае – вялікую хрысціянскую культуру.

> **“У часы Сярэднявечча былі вынайдзены механічны гадзіннік, млын, адпаведна воднае кола, друк, арган, акуляры...”**

Варта, можа, тут крыху нагадаць, чым адрозніваецца культура ад цывілізацыі. Найлепшую дэфініцыю, на мой погляд, дае Антоній Кемпінскі, польскі псіхіятр. На яго думку, цывілізацыя – гэта ўлада над светам, а культура – любоў да свету. Такім чынам, у культуры праяўляецца Божая любоў і прыгажосць. Там, дзе культура, ствараюцца цалкам іншыя адносіны паміж людзьмі, там таксама чалавек па-іншаму дбае пра навакольнае асяроддзе. А культура ўзнікае звычайна там, дзе ёсць уздым духоўнасці. Цывілізацыйна чалавецтва ўзрастае ўвесь час. Трэба было пасля страчанага зямнога раю як мага лепш і хутчэй запанаваць над стыхіямі гэтага свету і зрабіць сваё жыццё больш камфортным. Культура ж заўсёды мела пэўныя хістанні, большыя ці меншыя. Дык вось Сярэднявечча, на маю думку, дасягнула незвычайнага культурнага ўзроўню. Хаця і цывілізацыйна “цёмныя вякі” не былі найгоршымі. Вядома, што ў перыяд спелага Сярэднявечча насельніцтва Еўропы павялічылася ў некалькі разоў дзякуючы развіццю сельскай гаспадаркі. У часы Сярэднявечча былі вынайдзены механічны гадзіннік, млын, адпаведна воднае кола, друк, арган, акуляры, развівалася дойлідства, міжнароднае права (людзі ўсё больш пачалі гуртавацца паводле этнічных прымет і ствараць незалежныя краіны).

### Якія ж заслугі Касцёла былі перад тагачаснай Еўропай?

Па-першае – сістэма адукацыі. Вядома, што пачатковая адукацыя звычайна адбывалася ў сценах кляштараў, у якіх былі багатыя кнігазборы. Манахі ў часы ранняга і спелага Сярэднявечча звычайна былі перапісчыкамі. Таму варта тут адкінуць савецкі міф, што манаскія асобы былі цёмнымі і недалёкімі людзьмі. Пазней з’явіліся ўніверсітэты. Універсітэты складаліся звычайна з чатырох факультэтаў: багаслоўскага, філасофскага, медыцынскага і юрыдычнага. Дарэчы, багаслоўскі факультэт лічыўся асноўным. Першы ўніверсітэт з’явіўся ў Балоніі (1088), наступныя – у Парыжы (1100), Оксфардзе (1167), Кембрыджы (1226). Універсітэты зноў жа былі заснаваныя Каталіцкім Касцёлам. І менавіта дзякуючы буле Папы Рымскага некаторыя школы былі перайменаваныя ў *studium generale*, у якіх адпаведна маглі навучацца студэнты з усёй Еўропы. Універсітэты атрымалі тым самым пэўную аўтаномнасць і права даваць навуковыя ступені.

Першымі выкладчыкамі ў большасці былі духоўныя асобы. Св. Тамаш Аквінскі, напрыклад, адкрыў для Еўропы філасофію Арыстоцеля, якая захавалася дзякуючы ісламскай культуры і яе вядомым дзеячам Авіцэну і Авероэсу. Варта ўзгадаць, што менавіта Тамаш Аквінскі падкрэсліў ролю чалавечага розуму, асвечанага Божым святлом. Таму таксама няпраўда, калі кажуць, што людзі Сярэднявечча знішчылі элінскую культуру. Яны яе нанова, ужо ў больш хрысціянскім ракурсе адкрылі.



Гадзіннік на ратушы ў Празе з 1410 года

### Нотны запіс вынайшаў манах

Варта таксама ўзгадаць пра музыку. Да часоў Сярэднявечча музыка была аднагалосная: амбразіянская, грыгарыянская. Менавіта ў Сярэднявеччы адбыўся пэўны якасны рывок. Быў вынайдзены нотны запіс. А адбылося гэта ж зноў дзякуючы прадстаўніку Каталіцкага Касцёла. Нотны запіс вынайшаў дзесьці на пераломе тысячагоддзяў бенедыктынскі манах Гвіда д’Арэца, тэарэтык музыкі, які першапачаткова быў настаўнікам спеву ў сваім жа кляштары. Ён для паніжэння ці падвышэння тону выкарыстоўваў сваю руку. Пальцы такім чынам служылі нотнымі лінейкамі. Пазней з’явіліся ноты.

> **“Напэўна, мала хто ведае, што нота Сі ёсць абрэвіятурай св. Яна Хрысціцеля.”**

Такім чынам, дзякуючы нотнаму запісу музыка з гомафанічнай (аднагалоснай) станавілася ўсё больш паліфанічнай (шматгалоснай). Вынаходніцтва нотнай граматы дало магчымасць развівацца кампазітарскай дзейнасці (кампазітар ад лац. слова *compositio* – складваць, укладваць, парадкаваць). Першымі кампазітарамі, якія пачалі пісаць музыку, былі Леанін і Пірацін з катэдры Нотр-Дам у Парыжы. Аднак свайго апагею паліфанічная музыка дасягнула ў Фландрыі (сённяшняя Бельгія). У Фландрыі паліфанічная музыка стала называцца “суровым сцілем”. Адным з яркіх прадстаўнікоў фламандскай школы быў Жан Экэгэм, які, дарэчы, акрамя складання музычных твораў, быў філасофам, матэматыкам, багасловам, што, зрэшты, было вельмі распаўсюджаным у тую эпоху. Варта заўважыць, што для напісання музыкі Экэгэм выкарыстоўваў матэматычныя разлікі, каб такім чынам яна ўсё больш уплывала на чалавечы разум, ствараючы тым самым сузіральны настрой. Менавіта ў Сярэднявечы выпрацавалася так званая музыка *ars antiqua* – касцельная. Пазней з’явілася музыка свецкая – *ars nova*. Гэта была музыка трубадураў і мінізінгераў. Трубадуры – народныя, вандроўныя музыкі. Музыка мінізінгерства была спецыяльна выпрацавана для шматлікіх крыжовых паходаў.

Трэба заўважыць, што гранне на музычных інструментах, а таксама кампанаванне музыкі ў часы Сярэднявечча было вельмі распаўсюджанай справай. Напрыклад, вядома, што кароль Англіі Рычард Ільвінае Сэрца напісаў адзін са сваіх найлепшых твораў падчас двух гадоў, праведзеных у палоне.

Гэта толькі частка культурнай спадчыны “цёмнага Сярэднявечча”. У наступны раз паразважаем, што было дасягнута ў тыя часы ў выяўленчым мастацтве і дойлідстве.

## Каталіцкі гімн св. Яну Хрысціцелю, ад якога пайшлі назвы нотаў

Ut qué-ant láxis re-soná-re fíbris
Mí-ra gestó-rum fámu-li tu-ó-rum,
Sól-ve pollú-ti lábi- i re-á-tum, Sáncte Jo-ánnes.

UT queant laxis
REsonare fibris
MIra gestorum
FAmuli tuorum
SOLve polluti
LAbii reatum
Sancte Ioannes

Каб у поўны голас
Змаглі заспяваць слугі
Тваіх дзеяў цуды,
Здымі грэх з іх вуснаў,
Святы Ян.

**Правільныя адказы на віктарыну са старонкі 12:**
1.Б; 2. В; 3. А; 4. Б; 5. В; 6. Б; 7. А; 8. А; 9. А; 10. Б; 11. Б; 12. Б; 13. А; 14. В; 15. Б; 16. А; 17. А; 18. А; 19. В; 20. А.

# Беларускі семінарыст адправіцца на місію ў Афрыку



**Анджэй Ганчар, навучэнец 6 курса Гродзенскай духоўнай семінарыі, некалькі гадоў назад адкрыў для сябе місіянерскае пакліканне. У якасці валанцёра дыякан ужо пабываў у Казахстане, а гэтым летам збіраецца ў Камерун, дзяржаву ў трапічнай Афрыцы.**

У сённяшнім нумары семінарыст расказвае "Каталіцкаму Весніку" пра сваё служэнне.

**– Анджэй, калі Вы пачалі цікавіцца місіянерскай дзейнасцю?**

– Некалькі гадоў таму мае браты-семінарысты рабілі акцыю "Пакліканне". Неабходна было змантаваць відэа з выказваннямі студэнтаў-клерыкаў пра пакліканне, яго значэнне і разуменне. На гэтым відэа я быў з там-тамам, традыцыйным афрыканскім музычным інструментам. І сказаў так: "Я жадаю несці Божае слова туды, дзе пра Яго яшчэ не чулі..." І вось з гэтага моманту ўсё і пачалося. Я стаў цікавіцца місіянерскай дзейнасцю, кожны раз "пракручваючы" ў галаве думкі, як можна што-небудзь рэалізаваць. І, канешне, не забываў пра волю Усявышняга! Наведваў сімпозіумы, уступіў у Папскую Унію Місіянераў, здзяйсняючы штодзённую малітву аб новых місіянерскіх пакліканнях і за тых, хто ўжо служыць далёка ад родных дамоў. Пачаў удзельнічаць у розных акцыях.

**– Як Вы патрапілі валанцёрам у Казахстан?**

– Тры гады назад у нашай семінарыйнай супольнасці адбываліся рэкалекцыі. Іх для нас праводзілі місіянеры, якія сёння працуюць і служаць у Місіянерскім цэнтры ў Варшаве. Менавіта адзін з іх, айцец-італьянец Лука Бовіа, дапамог мне і майму аднакурсніку Дзянісу знайсці місіянерскую практыку. І вось ён – Казахстан. Незабыўныя перажыванні, знаёмствы, прапаведванне Евангелля. Менавіта там я ўмацаваў сваё пакліканне, сустрэў шмат добрых людзей, адкрытых на Божае слова. Служэнне айца Война з Польшчы, які працуе ў Казахстане ўжо больш за шэсць гадоў, стала для мяне прыкладам у многіх рэчах.

**– Распавядзіце пра Касцёл у Казахстане?**

– Праца ў парафіях Казахстана падобная да нашай. Аднак колькасць вернікаў невялікая: 20-40 чалавек. 150 вернікаў – ужо вялікая парафія. Вельмі вялікая адлегласць паміж парафіямі. Святары едуць за 400 км, сустракаюцца ў стэпе, каб паспавядаць. Ім патрэбна ісці і самім збіраць парафіян. Можна сказаць, ксёндз жыве з людзьмі. Канешне, ёсць парафіяльны дом, але калі святар будзе, напрыклад, сядзець пры камп'ютары, глядзець тэлевізар, то праз некалькі месяцаў застанецца адзін. Там няма традыцыі хадзіць у касцёл на святы, спавядацца, прымаць Камунію. Усяму павінен навучыць менавіта святар, усё паказаць і перадаць. У Казахстане сустракаў шмат людзей, якія былі дэпартаваныя з Беларусі на працы ў стэпы. Вельмі прыемна было пазнаёміцца з імі: людзі адкрытыя, гасцінныя.

**– А якое служэнне зараз праводзіце ў Беларусі?**

– Дзякуючы кс. Валерыю Быкоўскаму і а. Казіміру Жылісу я пачаў служэнне ў гарадзенскай турме. Наведваю вязняў, праводжу катэхезу, прыношу Камунію для зняволеных.

**– Як Вы даведаліся пра дзіцячы дом у Камеруне?**

– У 2014 годзе мой сябра дзяцінства Арцём Ткачук вырашыў са сваёй будучай жонкай Мартай Бекіш паехаць валанцёрамі ў Камерун у дзіцячы дом, якім кіруе айцец Дарыюш Гадава. Яны пазнаёміліся з ім у Польшчы, у Познані, дзе вучыліся. Менавіта ў камерунскай сталіцы Яўндэ Арцём зрабіў прапанову рукі і сэрца Марце. Мы па магчымасці тэлефанавалі адно аднаму, размаўлялі па скайпе. Гэтым яны мяне туды заманьвалі (усміхаецца). Гэта, канешне ж, жарт. Але ў кожным жарце ёсць доля праўды.

**– Калі менавіта Вы вырашылі стаць валанцёрам у Афрыцы?**

– Прыехаўшы з Камеруна, Арцём і Марта пабраліся шлюбам. Менавіта на іх шлюбе ў Гродне я і пазнаёміўся з айцом Дарыюшам, які прыбыў на вяселле з Афрыкі. Ён прапанаваў прыехаць да яго. Я з радасцю згадзіўся. Далей быў дазвол на год ад біскупа Аляксандра Кашкевіча. Афіцыйныя мовы Камеруна – англійская і французская. Божая апека была бачна, калі я знайшоў рэпетытара па французскай мове, а яна адмовілася браць грошы за заняткі.

**– А як Вы вырашалі фінансавыя пытанні?**

– На самай справе вельмі шмат адкрытых на місіянерскую дзейнасць людзей. Некаторыя, калі даведваюцца, што я збіраюся ў Афрыку, прыносяць і ахвяроўваюць пэўную суму грошай. Часам даводзіцца прасіць. Вялікая дапамога вернікаў. Білет у Камерун у абодва бакі каштуе 1000 €, плюс вакцынацыя ад розных хвароб. У Яўндэ карміць будуць два разы, гэтага хапае. А дзеці ўвогуле ядуць там толькі раз на дзень. Калі ж захочацца кока-колы альбо марозіва, неабходна будзе за ўсё плаціць самому, трэба мець на кішэнныя выдаткі. Калі захварэеш і не будзеш мець грошай, Місія можа дапамагчы. Я еду на ўвесь год, прыкладная неабходная сума – 2 500 – 3 000 €. Я хачу, безумоўна, сабраць больш, каб таксама дапамагчы Місіі ў Камеруне.

**– Што плануеце пасля вяртання ў Беларусь?**

– Калі вярнуся з Камеруна, вельмі хачу атрымаць святарскае пасвячэнне. Лічу, што валанцёрская практыка ўзмоцніць маё пакліканне. Гавораць, што пакліканне да місіянерства вельмі лёгка распазнаць. Калі ты хутка звыкнешся з гэтай нялёгкай дзейнасцю, то гэта тваё. Таму пабачым! Але сам я з вялікім жаданнем хачу паехаць туды.

***Гутарыла Ірына Грэйць***

***Ад рэдакцыі.***

*Дарагія чытачы! Тыя з вас, хто хоча дапамагчы беларускаму семінарысту на місіі ў Камеруне, могуць гэта зрабіць, склаўшы ахвяраванне праз Белпошту:*

***Гончар Анджей Ильич***
*ул. Кутузова д. 13*
*231281 г. Лида*
*Гродненской обл.*



**Анджэй Ганчар разам з в'етнамскімі манахінямі ў Казахстане**




**Выхаванцы дзіцячага дому ў Камеруне трымаюць у руках карткі з надпісам: «Любім і ўжо цябе чакаем, Анджэй»**

# Святары і іх свойскія жывёлы

**У гэтым нумары святары расказваюць "Каталіцкаму Весніку" пра сваіх жывёл-улюбёнцаў.**

*Падрыхтавала Ірына Грэйць*



**Ксёндз Віктар Захарэўскі:**

– Самымі першымі ў маім святарскім жыцці з'явіліся птушкі. Гэта былі папугайчыкі. На сённяшні дзень маю канарэек, амадзінаў. Таксама заўсёды марыў пра рыбак. Яшчэ будучы вікарыем у Гродне, пачаў імі займацца. Рыбкі мяне супакойваюць, імі можна сядзець і любавацца. Зараз маю акварыум аб'ёмам 116 літраў. Калі я працаваў у Астраўцы, манахіні падарылі мне ката. Ён у мяне ўжо 3 гады. Заўсёды ведае, калі да мяне прыйсці, вельмі адданы. Калі яго пагладзіш, мурлыча, любіць смачна паесці і паспаць на цёплым месцы.

У мяне ёсць і перапёлкі. Яны нясуць смачныя і карысныя яйкі. Я як святар часам маю шмат клопатаў, абавязкаў і не заўсёды паспяваю своечасова паснедаць. А перапяліныя яйкі з'яўляюцца цудоўнай стравай. З дзяцінства марыў мець свайго сабаку. Мне заўсёды падабалася парода кокер-спаніэль. Але выпадкова знаёмыя мне параілі кане-корса. Пазней з'явілася магчымасць узяць такога сабачку-дзяўчынку. Вельмі прыгожая, цудоўная. І калі я, напрыклад, знаходжуся дома, а яна звонку, то не ўпусціць у хату незнаёмага чалавека, а толькі таго, хто ведае гаспадара.

Маю яшчэ адну мару – хачу набыць трусоў. Таму пабачым, што атрымаецца. На сённяшні дзень цешуся з таго, што маю. Мне гэта вельмі падабаецца.



**Ксёндз Вячаслаў Адамовіч:**

– Зараз у мяне жыве ўжо другі кот. Першы "знік без вестак". Ката завуць Какос. Ён брытанскай пароды. Яшчэ малады, мае толькі пяць месяцаў. Адметна, што паявіўся кот на Божае Нараджэнне, 25 снежня. Як і кожны малады каток, Какос вельмі любіць шкодзіць і паўсюль сунуць свой нос. Ніводнае дзеянне ў хаце – ці то прыбіранне, ці нейкі малы рамонт – не можа быць зроблена без кантралёра-ката. А калі дзесьці ў хаце зашамацела торба, то дзе б ён ні быў, што б ні рабіў Какос – адразу прыбяжыць, каб праверыць, што адбываецца. Кот вельмі любіць хадзіць да капліцы. Там правярае, ці ўсё ў парадку, і далей бяжыць гуляць. А яшчэ ён добры будзільнік: заўсёды раніцай пабудзіць. Вельмі любіць пяшчоту і ўвагу, дарэчы, як кожнае Божае стварэнне.



**Ксёндз Аляксандр Грыцкевіч:**

– Люблю сабак за іх надзвычайную адданасць, глыбокі розум, шчырасць і "кампанейскасць". Найбольш падабаюцца нямецкія аўчаркі. Здаецца, што гэтая парода блізкая мне па духу. Зараз у мяне выхоўваецца «немец» па клічцы Тамерлан. Сабака мае адпаведны характар: наравісты, прабіўны, незалежны і ў некаторых выпадках нават уладны. Але пэўныя метады дрэсіроўкі дапамагаюць дасягнуць кантакту з ім, калі я для яго гаспадар, а ён падначалены. Вельмі люблю бавіць з ім свой вольны час: выязджаем у лес, на азёры, гуляем па палях. Быў спачатку здзіўлены, што Тамерлан любіць купацца. Таму, асабліва летам, пры першай магчымасці ён прымае водныя працэдуры. Гэта потым ускладняе яго перавозку ў машыне.



Лічу, што дамашнія гадаванцы, а асабліва сабакі, дапамагаюць людзям быць больш чалавечнымі і вучаць шанаваць жывёльны свет.



**Ксёндз Пётр Шарко:**

– Калі мяне прызначылі на працу ў Шэметава, Мядзельскага раёна, я зацікавіўся сабакамі. Касцёл стаіць на водшыбе, найбліжэйшая вёска – на адлегласці 1,5 км. Было жудасна аднаму. Тады мой сябар прапанаваў падарыць на дзень нараджэння сабаку. Гэта быў цудоўны шчанюк лабрадора. З яго ўсё і пачалося. На жаль, ён загінуў. Адразу я набыў другога шчанюка, таксама пароды лабрадор. Запрасілі на выставу. Пазней супрацоўнічаў з іншымі прыхільнікамі гэтай пароды. Зараз маю шчанюкоў, якія працуюць праваднікамі сляпых, апякуюцца інвалідамі, служаць на граніцы ў якасці пошукавых сабак па наркотыках, тытуні і іншых рэчывах. Супрацоўнічаю з многімі гадавальнікамі не толькі ў Беларусі, Расіі, але і ў некаторых краінах Еўропы і ЗША. Сабака для мяне сябар, які заўсёды мне рады і, напэўна, ратуе сваёй адданасцю ад розных жыццёвых цяжкасцяў. А ў першую чаргу, моцны антыдэпрэсант *(усміхаецца)*.

Аднойчы арцыбіскуп Клаўдыё Чэлі, старшыня Папскай рады па сродках масавай камунікацыі, наведаў Нясвіж – парафію, дзе я працую. Ён адразу задаў пытанне пра сабак і папрасіў паказаць іх. Мы доўга размаўлялі. Ён распавёў пра свайго сабаку, якога яму прапісаў лекар *(усміхаецца)*.



Арцыбіскуп мае зараз шмат руху. Дзякуючы гэтаму ў яго палепшылася праца сэрца. Сабака вымушае яго кожны дзень выходзіць у Ватыкане на шпацыр. Сабакі таксама евангелізуюць. Многія сабакаводы ведаюць, што я святар. У часе выставы задаюць шмат пытанняў на рэлігійную тэму і тэлефануюць, каб атрымаць парады. Лічу таксама, што сабака ў сям'і вучыць дзяцей быць адказнымі. Чалавек, які расце і апякуецца сабакам, больш міласэрны, ён ніколі не будзе здзекавацца з жывёлы.

## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Як вы клапоціцеся пра наваколле?**

Папа Францішак заклікае ахоўваць навакольнае асяроддзе і клапаціцца пра прыроду. У сваёй энцыкліцы "Laudato si'" Пантыфік заахвочвае да "экалагічнага навяртання". А як вы клапоціцеся пра наваколле?

- сартую і не раскідваю смецце – 44 адказы;
- эканомлю электрычнасць, ваду, газ – 22 адказы;
- саджу дрэвы і розныя расліны – 13 адказаў;
- карыстаюся энергазберагальным абсталяваннем – 12 адказаў;
- стараюся як мага менш ездзіць на машыне – 6 адказаў;
- карыстаюся натуральнымі матэрыяламі – 6 адказаў;
- удзельнічаю ў розных семінарах, канферэнцыях па экалогіі – 3 адказы;
- Іншы варыянт – 3 адказы.

**Усяго – 109 адказаў.**



## Як ставіцца Касцёл да футбольных заўзятараў?

***"У бягучым годзе я пачаў цікавіцца беларускім футболам і заўзець за навічкоў найвышэйшай лігі беларускага футбола, бо мы ўсё ж жывём у Беларусі. Як ставіцца Касцёл да заўзятараў, што ходзяць на стадыён, падтрымліваюць сваю каманду, цікавяцца футбольным жыццём і навінамі?"***

*Сяргей*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Захапленне футболам само па сабе з'яўляецца нейтральнай з'явай. Чалавек можа праводзіць свой вольны час так, як яму падабаецца. Але пры гэтым захапленне не павінна быць перашкодай для выканання сваіх непасрэдных абавязкаў (дапамога бацькам, навучанне, выхаванне дзяцей, прысутнасць у жыцці сваёй сям'і і г.д.). Касцёл не вызначае пэўным асобным чынам стаўленне да захаплення футболам, таму ацэньваць яго варта па агульных маральных крытэрыях: адказнасці, павагі да іншых, сумленнасці. Цалкам нармальна падтрымліваць сваю каманду, але ніяк не прымальна абражаць і грэбліва ставіцца да прыхільнікаў камандаў-сапернікаў.



# Каляндар на чэрвень

**Чэрвень прысвечаны Сэрцу Езуса. Чэрвеньскія набажэнствы на ўшанаванне Найсвяцейшага Сэрца Езуса маюць багатую гісторыю, карані якой ідуць з канца XIX ст. Чэрвеньскае набажэнства – гэта пабожная практыка, праз якую мы выяўляем нашу падзяку за тую вялікую любоў, якой нас адорвае Езус Хрыстус. Гэта набажэнства складаецца з адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту і спеву або прамаўлення Літаніі да Найсвяцейшага Сэрца Езуса.**



**3 чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса.**

У Каталіцкім Касцёле гэта свята, прысвечанае ўшанаванню Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста, адзначаецца ў пятніцу, на восьмы дзень пасля ўрачыстасці Божага Цела Хрыста і на дванаццаты дзень пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы. Сэрца Хрыста з'яўляецца сімвалам любові Бога да людзей. Такім чынам, гэтае свята адлюстроўвае падзяку Богу за Яго любоў і дараванае збаўленне. У літургічным каляндары ўрачыстасць Сэрца Езуса з'явілася параўнальна нядаўна – яна была ўстаноўлена Папам Піем IX у 1856 годзе. Яе ўстанаўленне стала замацаваннем ужо існай шматвяковай традыцыі асаблівага шанавання Сэрца Збаўцы. Своеасаблівы штуршок у развіцці ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса быў звязаны з імем сястры законнай Маргарыты Марыі Алякок. Гэтай манахіні, якая жыла ў XVII стагоддзі, Збаўца з'яўляўся некалькі разоў і выказаў жаданне, каб Яго Сэрца ўшаноўвалася ва ўсім свеце. У XVI стагоддзі, асабліва дзякуючы ордэну езуітаў, культ Сэрца Езуса дасягае апагею. У 1672 г. а. Ян Эд, які быў спаведнікам сястры Маргарыты Марыі Алякок, адслужыў з дазволу біскупа першую святую Імшу ў гонар Сэрца Езуса Хрыста. Апостальская Сталіца на працягу ста гадоў не абвяшчала новае свята афіцыйна. Першы дазвол быў атрыманы польскімі біскупамі ад Папы Клімента XII у 1765 годзе, а ў 1856-ым Папа Пій IX увёў літургічнае святкаванне Найсвяцейшага Сэрца Езуса як абавязковае для ўсяго Касцёла. Папа Пій XII прысвяціў ушанаванню Сэрца Езуса спецыяльную энцыкліку ў 1956 г.

**4 чэрвеня – успамін Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята, прысвечанае ўшанаванню Беззаганнага Сэрца Багародзіцы, адзначаецца ў суботу, на наступны дзень пасля ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Сэрца Марыі з'яўляецца сімвалам любові Багародзіцы да людзей, а таксама міласэрнасці і спачування да чалавецтва, за выратаванне якога Яна няспынна ўзносіць малітву.

**11 чэрвеня – успамін св. Барнабы, Апостала.**

Імя "Барнаба" ў перакладзе азначае "сын суцяшэння". Ён нарадзіўся на пачатку I ст. на Кіпры і быў адным з 72 вучняў Езуса. У кнізе Дзеяў Апосталаў пра яго сказана, што ён прадаў усё, што меў, а выручаныя грошы ахвяраваў апосталам. У 37 годзе ён увёў Паўла ў супольнасць апосталаў, а потым быў яго спадарожнікам і блізкім супрацоўнікам у справе абвяшчэння Евангелля падчас першага місіянерскага падарожжа Апостала народаў.

У 51 г. браў удзел у Саборы апосталаў у Ерусаліме. Пазней Барнаба абвяшчаў Евангелле на сваёй радзіме – на Кіпры, дзе ў 61 годзе быў укаменаваны мясцовымі габрэямі. Святога Барнабу называюць "Апосталам Кіпра" і просяць у яго абароны ад сварак, ад смутку і ад граду.

**13 чэрвеня – успамін св. Антонія Падуанскага, святара і доктара Касцёла.**

Нарадзіўся ў 1195 г. у Лісабоне (Партугалія) і на хросце атрымаў імя Фернанда. Ва ўзросце 15 гадоў уступіў у ордэн аўгусцінцаў-эрэмітаў у Каімбры і там прыняў святарскае пасвячэнне. Моцна ўражаны мучаніцтвам пяці францішканцаў, забітых мусульманамі, вырашае сам стаць францішканцам. Уступіўшы ў закон Меншых Братоў, прыняў імя Антоній. Спачатку ён выехаў на місію ў Марока, але з-за слабага здароўя мусіў неўзабаве вярнуцца.

Антоній памёр 13 чэрвеня 1231 г. і менш чым праз год быў кананізаваны. Рэліквіі святога Антонія знаходзяцца ў прысвечанай яму базіліцы ў Падуі, дзе адбываецца так шмат цудаў, што святы Банавентура нават аднойчы сказаў: "Калі шукаеш цудаў, ідзі да Антонія". Святы быў абвешчаны доктарам Касцёла (doctor evangelicus – евангельскі доктар). Антоній – адзін з найбольш шанаваных святых у Каталіцкім Касцёле і вельмі папулярны ў народнай пабожнасці: з'яўляецца, між іншым, апекуном закаханых, сужэнцаў, падарожных; ахоўвае ад неўраджаю і дапамагае знаходзіць згубленыя рэчы.

**18 чэрвеня – гадавіна пасвячэння катэдры ў Віцебску.**

**24 чэрвеня – Нараджэнне святога Яна Хрысціцеля.**

Святы Ян Хрысціцель з'яўляецца апошнім старазапаветным прарокам, які сваім жыццём закрывае эпоху Старога Запавету і выступае прарокам новай фармацыі – Новага Запавету. Ён нарадзіўся на паўгода раней за Хрыста і ў маладым узросце адасобіўся ў Юдэйскай пустыні, дзе вёў вельмі строгае аскетычнае жыццё. Там ён адчуў пакліканне абвяшчаць набліжэнне Божага валадарства і пачаў удзяляць хрост пакаяння ў Іардане. Вакол яго сабралася супольнасць вучняў, да якой спачатку належалі і некаторыя з апосталаў (Андрэй, Ян). Прыняць ад яго хрост прыйшоў Сам Езус. Як і любы прарок, св. Ян Хрысціцель сустракаў на сваім жыццёвым шляху перашкоды, абыякавасць і варожасць.

**29 чэрвеня – урачыстасць Святых Апосталаў Пятра і Паўла.**

Святыя Апосталы Пётр і Павел з'яўляюцца заснавальнікамі і падмуркам Касцёла. Наступнікам Пятра ёсць Папа Рымскі, які працягвае яго служэнне ў Касцёле.

# Кананізацыя блаславлёнага Станіслава Папчынскага

## 5 чэрвеня – кананізацыя заснавальніка ордэна айцоў-марыянаў Станіслава Папчынскага

**а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін*

Калі глядзім на выяву айца Станіслава, можам быць упэўненымі, што ён выглядаў сапраўды так. Беатыфікацыйны абраз стварaўся па падставе сучасных крыміналістычных і камп'ютарных вынаходніцтваў. Супастаўляліся абрысы чэрапа, а таксама раней вядомыя выявы айца Станіслава. І такім чынам мастакі здолелі наблізіць да нас чалавека, які жыў больш за 350 гадоў таму. У твары святога можна ўбачыць надзвычайную еднасць дабрыні і лагоднасці, жыццёвай мудрасці і прастацці.

Айцец Станіслаў быў чалавекам, глыбока адданым Божаму Провіду. Яшчэ ў законе піяраў яму неаднаразова даводзілася апынацца ў сітуацыях, па-людску невырашальных і драматычных. Чалавек вялікай працаздольнасці і высокіх маральных стандартаў, больш за ўсё ён шанаваў вернасць Богу. Менавіта таму трапіў у канфлікт са сваім законным начальствам, цярпеў несправядлівыя абвінавачванні, неразуменне і, больш за тое, быў пад пагрозай фізічнай расправы. Айцец Станіслаў з'яўляўся радыкальна евангелічным святаром і законнікам, а такія людзі або прыцягваюць да сябе, або выклікаюць непрыманне і раздражненне. Законнае начальства раздражняла евангельская пастава айца Станіслава, а, напрыклад, Апостальскага Нунцыя Антоніа Пігнатэлі – прыцягвала. Менавіта гэтага гнанага святара будучы Папа Інакенці XII абраў сваім спаведнікам.



Усе перажыванні айца Станіслава былі падрыхтоўкай да заснавання першай законнай кангрэгацыі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай – ордэна айцоў-марыянаў Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. Гэты зварот да Беззаганнага Зачацця – праўды веры, яшчэ не зацверджанай Касцёлам, – стаў праявай вялікага жадання жыць святасцю Бога. Законнае адзенне – белы габіт – было абранае як ушанаванне чысціні і жыцця ў ласцы Святой Багародзіцы.

Сваім прагненнем быць святым, падабацца Богу айцец Станіслаў стараўся дзяліцца з іншымі людзьмі. Яго святарскае служэнне можна размежаваць на два этапы. Першы этап, у законе піяраў, – гэта час усеагульнага прызнання: шанаваны выкладчык, аўтар папулярнага падручніка па рыторыцы, спаведнік тагачаснай духоўнай і грамадскай эліты, славуты прапаведнік. Другі этап, у законе марыянаў, – гэта служэнне людзям бедным, абяздоленым, абмежаваным. Але менавіта з гэтага перыяду пачынаюцца апісанні розных цудаў – ад спектакулярных аздараўленняў да містычнага захаплення падчас малітвы за памерлых.

Цікава, што цудам для беатыфікацыі стала вяртанне да жыцця дзіцяці ва ўлонні маці. Урачы сцвердзілі, што дзейнасць сэрца плода спынілася і адбыўся "ўнутраны выкідыш". Сям'я, якой ужо даводзілася перажываць падобныя сітуацыі, малілася навэнну праз заступніцтва айца Станіслава. І вось праз чатыры дні пасля дыягназу ўльтрагукавыя даследаванні паказалі, што сэрца дзіцяці зноў б'ецца. Адразу было прызнана, што гэта здарэнне выходзіць за межы дзеяння прыродных сілаў. Менавіта ён, шчаслівa народжаны і здаровы хлопчык, разам з бацькамі падчас беатыфікацыйнай святой Імшы нёс да алтара рэліквіярый айца Станіслава.

# На чэрвень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскіх і біскупскіх пасвячэнняў у наступных святароў і біскупаў:

**1 чэрвеня** – дзень нараджэння і гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Леанард Ціханоўскі OCD** *(Гудагай)*, **кс. Казімір Мараўскі OCD** *(Гудагай)*, **кс. Вітольд Жэльветра** *(в. Ліпнішкі)*.

**2 чэрвеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Караль Бараноўскі** *(Гродна)*.

**3 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, **кс. Андрэй Ядкоўскі** *(г.п. Вялікая Бераставіца)*, **кс. Ян Рэйшэль** *(г.п. Жалудок)*; імяніны адзначаюць **кс. Лешэк Вітвіцкі** *(Слабодка)*, **кс. Алег Шпень** *(в. Дайлідкі)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Павел Астукевіч** *(в. Індура)*, **кс. Валянцін Хведук** *(в. Беліца)*, **а. Анатоль Ярошка OFMCap** *(Слонім)*, **кс. Павел Калеснік** *(в. Жодзішкі)*, **кс. Андрэй Казлоўскі** *(в. Малая Бераставіца)*, **кс. Вітальд Лазавіцкі** *(г.п. Радунь)*, **кс. Ян Сарэла** *(в. Волпа)*, **кс. Казімір Вальчык SDB** *(в. Нестанішкі)*, **кс. Здзіслаў Ведэр** *(Смаргонь)*, **кс. Віктар Вялівіс** *(в. Грандзічы)*.

**4 чэрвеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Анатоль Парахневіч** *(Альковічы)*, **кс. Генадзь Акалатовіч** *(г. Валожын)*, **кс. Алег Жураўскі SDB** *(Смаргонь)*.

**5 чэрвеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Андрэй Шчупал CSsR** *(в. Новая Руда)*.

**6 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначаюць **бр. Францішак Буко OFMCap**, **кс. Андрэй Врублеўскі CSsR** *(Гродна)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Антоні Філіпчык** *(Ваўкавыск)*, **кс. Тадэвуш Качан** *(в. Конвелішкі)*.

**7 чэрвеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Ежы Саковіч OSPPE** *(г.п. Карэлічы)*.

**8 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Лазоўскі**; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Міхал Стэцкевіч** *(в. Бердоўка)*, **кс. Ян Залога** *(в. Жырмуны)*.

**9 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Томаш Міка OP** *(Віцебск)*; гадавіну біскупскіх пасвячэнняў адзначае **біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB**, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Мар’ян Хамення** *(в. Шылавічы)*, **кс. Веслаў Даброўскі SDB** *(в. Наваельня)*, **кс. Станіслаў Краўчанка** *(Смаргонь)*.

**11 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Здзіслаў Пікула SDB** *(в. Варняны)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **а. Лех Баханэк OFMConv** *(Івянец)*, **кс. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Орша)*, **кс. Пётр-Павел Кубел** *(в. Крупава)*, **кс. Пётр Віснеўскі** *(в. Шылавічы)*.

**12 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Антоні Пажэцкі OFMConv** *(Гродна)*.

**13 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Антоні Ханько** *(Гродна)*; імяніны адзначаюць **кс. Генадзь Акалатовіч** *(г. Валожын)*, **кс. Антоні Клімантовіч** *(Мінск)*, **кс. Антон Лагунёнак** *(Канстанцінава)*, **кс. Алег Півавар** *(Лёзна)*, **кс. Антоні Адамовіч** *(Ліда)*, **кс. Ігар Анісімаў** *(Слонім)*, **кс. Антоні Ханько** *(Гродна)*, **кс. Антоні Філіпчык** *(Ваўкавыск)*, **кс. Антоні Грэмза** *(Гродна)*, **кс. Антоні Казлоўскі** *(в. Вішнева)*, **кс. Антоні Абухоўскі** *(г.п. Сапоцкін)*, **кс. Антоні Пажэцкі OFMConv** *(Гродна)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Андрэй Возняк SCJ** *(Паставы)*, **кс. Аляксандр Дулінец** *(Падсвілле)*, **а. Сяргей Мацюшонак OFMCap** *(Віцебск)*, **кс. Аляксандр Махнач SChP** *(Шчучын)*.

**14 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Уладзімір Гуляй** *(Ліда)*, **кс. Алег Шпень** *(в. Дайлідкі)*; імяніны адзначаюць **кс. Валерый Даўгуль**, **кс. Валерый Спірыдон** *(Гродна)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **а. Віталь Сапега OP** *(Віцебск)*, **кс. Станіслаў Лабан** *(в. Беняконі)*, **кс. Віктар Субел** *(в. Трабы)*, **кс. Уладзімір Шкурынскі** *(в. Міжэрычы)*.

**15 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Ігар Лашук SDB** *(г. Мінск, в. Багданава)*.

**16 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ежы Ігнатовіч** *(в. Правыя Масты)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Кірыл Бардонаў**.

**17 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Раман Ялоўчык** *(в. Кемелішкі)*, **кс. Ян Асіповіч SChP** *(Шчучын)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **біскуп Казімір Велікаселец**, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі, **біскуп Юзаф Станеўскі**, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі, **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*, **а. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Варапаева)*, **кс. Кшыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Шаркаўшчына)*, **кс. Юзаф Ханчыц** *(Ліда)*, **кс. Казімір Янджэйчак OMI** *(в. Селіванаўцы)*.

**18 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вітальд Чурган** *(г.п. Юрацішкі)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Люцыян Даброўскі SDB** *(в. Баруны)*, **кс. Здзіслаў Пікула SDB** *(в. Варняны)*.

**19 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Андрэй Бульчак SCJ** *(Паставы)*, **кс. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Орша)*.

**20 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Міхал Ластоўскі** *(в. Копцеўка)*, **кс. Андрэй Зноска** *(Ліда)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Аляксандр Севасцьяновіч** *(г.п. Мір)*.

**21 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Адамовіч** *(в. Нача)*; імяніны адзначаюць **кс. Віктар Гайдукевіч SDB**, **кс. Алойзы Шулік OFM**; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Юзэф Гэнза CSsR** *(Гродна)*.

**23 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Юрый Катовіч** *(Докшыцы)*.

**24 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Кучынскі** *(Гродна)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB**, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, **кс. Тадэвуш Вышынскі CM** *(Гродна)*; гадавіну біскупскіх пасвячэнняў адзначае **біскуп Казімір Велікаселец**, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі; імяніны адзначаюць **кс. Ян Крэміс**, **кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, **а. Ян-Валерыян Хернік OFMConv** *(Удзела)*, **кс. Ян Этэль SCJ** *(Гродна)*, **кс. Ян Гавецкі** *(в. Іўе)*, **кс. Ян Козак** *(в. Ішчальна)*, **кс. Ян Кучынскі** *(Гродна)*, **кс. Ян Кузюк** *(в. Грандзічы)*, **кс. Іван Агар SDB** *(Смаргонь)*, **кс. Ян Асіповіч SChP** *(Ліда)*, **кс. Ян Пяцюн** *(в. Асава)*, **кс. Ян Пузына** *(Ашмяны)*, **кс. Ян Радзюк** *(Гродна)*, **кс. Ян Рэйшэль** *(г.п. Жалудок)*, **кс. Ян Раманоўскі** *(Гродна)*, **кс. Ян Раманчук**, **кс. Ян Рушніцкі** *(в. Каробчыцы)*, **кс. Ян Сарэла** *(в. Волпа)*, **кс. Ян Залога** *(в. Жырмуны)*, **кс. Ян Занеўскі** *(в. Квасоўка)*.

**26 чэрвеня** – імяніны адзначае **а. Давід Мокры OFM**; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Ежы Бартасевіч** *(Гродна)*, **кс. Павел Беланос** *(в. Макараўцы)*, **кс. Уладзімір Гуляй** *(Ліда)*, **кс. Андрэй Кеўлук** *(г.п. Жалудок)*, **кс. Ян Кучынскі** *(Гродна)*, **кс. Валерый Лісоўскі** *(в. Вярэйкі)*, **кс. Антоні Абухоўскі** *(г.п. Сапоцкін)*, **кс. Павел Паўлюкевіч** *(в. Граўжышкі)*, **кс. Міхал Васількевіч** *(в. Ізабелін)*.

**27 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Аляскевіч** *(в. Суботнікі)*; імяніны адзначаюць **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**, **кс. Вадзім Сурвіла** *(Ліда)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Вадзім Сурвіла** *(Ліда)*.

**29 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Пётр Ясевіч OFMCap** *(Докшыцы)*; імяніны адзначаюць **кс. Павел Кнурэк** *(Лынтупы)*, **кс. Пётр Кубіцкі** *(Талачын)*, **а. Павел Мажэйка OP** *(Віцебск)*, **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*, **а. Шымон Фарайтэр OMI** *(Шуміліна)*, **а. Пётр Ясевіч OFMCap** *(Докшыцы)*, **кс. Павел Падмышанін MIC** *(Барысаў)*, **кс. Павел Адамовіч**, **кс. Павел Беразун**, **кс. Павел Ляліта OCD**, **кс. Пётр Пятрага** *(в. Касцяневічы)*, **кс. Павел Слука MSF**, **кс. Пётр Фарына OCD**, **кс. Пётр Фраштэнга OCD**, **кс. Пётр Шарко**, **кс. Павел Шылак**, **кс. Павел Астукевіч** *(в. Індура)*, **кс. Павел Беланос** *(в. Макараўцы)*, **кс. Павел Барысевіч** *(Ашмяны)*, **кс. Алег Дуль** *(Ваўкавыск)*, **кс. Павел Эйсмант** *(Ваўкавыск)*, **кс. Павел Гардзейчык** *(г.п. Астравец)*, **кс. Павел Калеснік** *(в. Жодзішкі)*, **кс. Пётр Кубел** *(в. Крупава)*, **кс. Павел Лазоўскі** *(г.п. Радунь)*, **кс. Пётр Марцінец** *(в. Азёры)*, **кс. Павел Аляскевіч** *(в. Суботнікі)*, **кс. Павел Паўлюкевіч** *(в. Граўжышкі)*, **кс. Павел Салабуда** *(Гродна)*, **кс. Павел Ствол** *(Цудзанішкі)*, **кс. Павел Шанчук** *(в. Гожа)*, **кс. Павел Урбан** *(Гродна)*, **кс. Пётр Віснеўскі** *(в. Шылавічы)*, **кс. Павел Звяжынскі** *(Гродна)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Пётр Марцінец** *(в. Азёры)*, **кс. Андрэй Стапыра** *(г.п. Бярозаўка)*.

**30 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Баран** *(Новалукомль)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**


18 чэрвеня – 5-і гадовы юбілей пасвячэння катэдры ў Віцебску.

## Паважаны кс. Эдвард Нарадоўскі!

*Віншуем Вас з Днём нараджэння!*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам моцнага здароўя і апекі Маці Божай. Няхай Дух Святы Вас узмацняе і адорвае сваімі дарамі. Дзякуем шчыра за Вашу адданую працу, за клопат і малітву за нас, простых людзей!*



***Вернікі з парафіі Маці Божай Ласкавай, в. Задарожжа (Глыбоцкі раён)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*30 мая адзначае свой Дзень нараджэння **ксёндз Аляксандр Баран**.*

*Шаноўны ксёндз Аляксандр! Шчыра віншуем з гэтай нагоды! Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці і аптымізму, бязмежнай міласэрнасці і плёну ў працы на доўгія гады святарскага служэння! Шмат Божых ласкаў Вам, каб кожны дзень Вашага жыцця быў напоўнены шчасцем і радасцю! Хай Добры і Міласэрны Бог благаслаўляе на новыя справы, адорвае сваімі ласкамі і няспынна абярагае ў штодзённым служэнні Богу і людзям!*



*Нашы найлепшыя віншаванні і пажаданні таксама дасылаем Вашым родным і блізкім. Няхай Маці Божая заўсёды атуляе іх сваёй пяшчотай, любоўю і малітвай!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Перамянення Панскага ў Чашніках***

## Віншуем!

*Сардэчна віншуем **ксяндза Аляксандра Барана** з Днём нараджэння!*

*Няхай Усемагутны Бог спашле Вам моцнага здароўя на доўгія гады, духоўнай сілы і жыццёвага аптымізму, а Маці Божая хай заўсёды трымае Вас пад сваёй апекай! Няхай Дух Святы дапамагае ў святарскай працы! Мы таксама молімся за Вас.*

***Парафіяне касцёла св. Марыі Магдалены, г. Новалукомль***

## Віншуем!

*Паважанаму **ксяндзу-пробашчу Мікалаю Ціхановічу** з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем здароўя, радасці, цяпла і супакою!*

*Няхай Езус Хрыстус, Якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень. Маці Божая няхай ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і нястомна адорвае сваімі дарамі!*

*Дзякуем за Ваша добрае, чулае сэрца, клопат пра нас і парафію, за шчырую малітву, за цярплівасць да нас і памяркоўнасць!*

***Парафіяне з в. Прыпернае (Глыбоцкі р-н): Юзэфа Шарабайка, Яніна Барткевіч, Яніна Казачок, сям'я Дземідовіч***

## Віншуем!

*Шаноўнаму **кс. Мікалаю Ціхановічу**, былому пробашчу, з нагоды Дня нараджэння, які ён адзначае 14 мая, хочам скласці найлепшыя пажаданні. Жадаем Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога, моцнага здароўя, радасці і супакою!*

***Францішканскі закон свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў і Кола Жывога Ружанца з Вялікіх Ёдкавічаў (Гродзенская дыяцэзія)***



## Хвала Хрысту!

*Мы, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага, скіроўваем шчырыя словы віншавання і ўдзячнасці нашаму былому душпастыру **ксяндзу Адаму Дынаку**, які адзначае 30 мая гадавіну святарскіх пасвячэнняў, а 31 мая – Дзень нараджэння. Сардэчна дзякуем, паважаны кс. Адам, за Вашу працу ў нашай парафіі, за сумесныя малітвы, за клопат пра людзей, за падтрымку і дапамогу! Жадаем Вам моцнага здароўя, сіл і цярпення, Божых ласкаў, апекі Панны Марыі. Сілы Вам для рэалізацыі планаў і задумак, поспехаў у душпастырскай працы. Мы памятаем пра Вас у сваіх малітвах і жадаем плённай працы на доўгія гады!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску***



## Паважаны айцец Юрый Катовіч!

*З нагоды святкавання 30 мая Вашага Дня нараджэння прыміце ад вернікаў Докшыцкай парафіі найлепшыя пажаданні!*



*Дзякуем Вам за клопаты, за шчырае чулае сэрца, за адданую працу ў нашым касцёле. Дзякуем Богу, што паслаў абвяшчаць Божае слова нам, сеяць дабро і несці супакой у нашы сэрцы.*

*Няхай Пан Бог і Панна Марыя аддзячаць Вам і адораць патрэбнымі ласкамі! Моцнага Вам здароўя, Божай падтрымкі ва ўсіх справах, шчырых і ветлівых людзей на Вашым шляху, ажыццяўлення ўсіх планаў і задумак!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Докшыцах***

## Шчыра віншуем!

*Наш паважаны **айцец-капуцын Юрый Катовіч**, наш пробашч! Мы, Ваша моладзь, віншуем Вас з гадавінай святарскага жыцця!*

*Знаёмыя мы ўжо з Вамі не першы год, і за гэты час Вы сталі для нас сапраўды родным і дарагім чалавекам. Заўсёды адчуваецца Ваш клопат пра нас і не толькі. Бачым таксама і тое, колькі намаганняў Вы прыкладаеце дзеля таго, каб наша святыня і яе навакольле радавалі ўсіх парафіян, а таксама гасцей. Вы наш апякун, беражэце нас кожны дзень, і мы заўсёды гэта адчуваем.*

*Таму дзякуем Вам за шчырую ўсмешку, гледзячы на якую самім хочацца радавацца і смяяцца; за добрыя словы, якімі сустракаеце кожнага з нас і якія часам так патрэбны нам, маладым. Асабліва хочам падзякаваць за Вашу дысцыплінаванасць, якой Вы вучыце і нас, бо часам, прызнаём, нам яе не хапае.*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, трываласці і шмат цярпення на Вашым нялёгкім святарскім шляху і, безумоўна, каб заўсёды з Вамі быў добры настрой. Няхай Усемагутны Бог дапамагае Вам, а Маці Божая хай абараняе Вас і падтрымлівае!*

*Мы ўсе шчыра ўдзячныя Пану Богу за дар Вашага паклікання і абяцаем шчыра маліцца!*

***Ад імя моладзі парафіі Святой Тройцы ў Докшыцах, Вераніка Далжук***



## Хвала Хрысту!

*Сардэчна віншуем святароў і духоўных асоб са знамянальнымі датамі ў іх жыцці:*

*13 мая – **біскупа Алега Буткевіча** з гадавінай святарскага пасвячэння;*

*15 мая – **кс. Віктара Місевіча** з гадавінай святарскага пасвячэння;*

*22 мая – **кс. Вадзіма Прасянога SCJ** з гадавінай святарскага пасвячэння;*

*25 мая – **біскупа на пенсіі Уладзіслава Бліна** з гадавінай святарскага пасвячэння, а 31 мая – з Днём нараджэння;*

*31 мая – шаноўнага **арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча**, мітрапаліта Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, з гадавінай святарскага пасвячэння.*

*Шчыра дзякуем за іх высакароднае служэнне на Божай ніве. Жадаем ім моцнага здароўя, Божых ласкаў і апекі Маці Божай, добрых і адданых нашай веры парафіян!*

*Заўсёды молімся за ўсіх!*

***З глыбокай павагай і ўдзячнасцю, вернікі з г. Паставы***



# Што? Дзе? Калі?

## Каталіцкая віктарына

1. Дыялагаваная малітва:
   А) Антыфона
   Б) Літанія
   В) Гімн

2. Літургічны перыяд перад Пасхай:
   А) Адвэнт
   Б) Пасхальная актава
   В) Вялікі пост

3. Газета ў Ватыкане:
   А) L'Osservatore Romano
   Б) Scrittore Vaticano
   В) Viva il Papa

4. Вячэрняя малітва ў брэвярыі:
   А) Ютрань
   Б) Нешпары
   В) Камплета

5. Студэнт семінарыі:
   А) Святар
   Б) Міністрант
   В) Клерык

6. Ежа ў пустыні:
   А) Саранча
   Б) Манна
   В) Мёд

7. Навука пра Касцёл:
   А) Эклезіялогія
   Б) Марыялогія
   В) Экалогія

8. Перыяд фармацыі ў кляштары перад манаскімі шлюбамі:
   А) навіцыят
   Б) лектарат
   В) акалітат

9. Кардынал, канвертыт з англіканства:
   А) Ньюман
   Б) Труман
   В) Пульман

10. Катэдра ў Парыжы:
   А) Пары Сэн-Жэрмэн
   Б) Нотр-Дам
   В) Сакрэ-Кёр

11. Санта Клаўс бярэ вытокі ад:
   А) св. Яна
   Б) св. Мікалая
   В) св. Ігнацыя

12. Горад, заснаваны святым:
   А) Рым
   Б) Непакалянаў
   В) Фаціма

13. Разбурэнне Ерусалімскага храма, пра якое казаў Езус, адбылося ў:
   А) 70 годзе
   Б) 1054 годзе
   В) 33 годзе

14. Каталіцкі рух, заснаваны Хасэ-Марыа Эскрывам у 1928 годзе:
   А) Легіён Марыі
   Б) Рух факаляраў
   В) Опус Дэі

15. Перыяд васьмідзённага святкавання пасля вялікай урачыстасці:
   А) навэна
   Б) актава
   В) трыдуум

16. Езус расказваў:
   А) прыпавесці
   Б) апавяданні
   В) легенды

17. Што прысягаюць манахі?
   А) убогасць
   Б) пунктуальнасць
   В) працавітасць

18. Мельхізэдэк быў?
   А) святаром
   Б) прарокам
   В) слугой

19. Божае ўсёведанне і апека:
   А) Прывід
   Б) Давід
   В) Провід

20. Святы Ян Павел II памёр у:
   А) 2005г.
   Б) 2004г.
   В) 2006г.

***Адказы глядзіце на старонцы 7***

***Падрыхтаваў кс. Віктар Місевіч***

# Ці цяжка вучыцца ў семінарыі?

*"Ці цяжка вучыцца ў семінарыі?"*
*Андрэй*



**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Паважаны Андрэй! Дзякуй за вельмі важнае пытанне, якое, безумоўна, цікавіць многіх, перад усім маладых людзей. У духоўных семінарыях Хрыстос чакае тых, каго Сам выбірае і кліча ісці за Сабою. Семінарыі ў нашай краіне, як у Пінску, так і ў Гродне, маюць усе ўмовы, каб паспрыяць адпаведнай фармацыі будучых святароў.

Духоўныя семінарыі, дыяцэзіяльныя і манаскія, – гэта фармацыйныя месцы і найперш супольнасці ў дарозе (пар. Ян Павел II, Адгартацыя Pastoresdabovobis, 60). Згодна з мэтаю, духоўную семінарыю можна лічыць працягам супольнасці апасталаў, сабраных вакол Езуса Хрыста, якія слухалі Ягоныя словы, перажывалі Пасху (таямніцу збаўчай мукі, смерці і ўваскрасення), чакалі дару Духа Святога, каб пазней пайсці з даручанаю ім місіяй (пасланне і заданне).

Адказ на Вашае пытанне, паважаны Андрэй, пра навучанне ў семінарыі мусіць закрануць шматбаковыя аспекты, хоць, на першы погляд, можа здавацца, што аўтара цікавіць толькі вучоба ў сэнсе інтэлектуальным. Сам працэс вучобы, г. зн. слуханне лекцый, практычныя заняткі, самападрыхтоўка, залікі, экзамены ды іншыя мерапрыемствы, падобныя ці такія ж як у шматлікіх вышэйшых навучальных установах. Неабходна, аднак, памятаць, што семінарыя – гэта не толькі месца, дзе студэнты здабываюць веды, але перш за усё адказваюць на надпрыродны дар паклікання і крочаць за Хрыстом, Які іх выбраў ды надзяліў усім патрэбным, каб на гэты дар адпаведна адказаць. Выбар святарства – гэта перадусім адказ на Божае пакліканне. Неабходна заўсёды памятаць, што менавіта Бог ёсць Панам жніва і Ён Сам кліча і выбірае, каго хоча, калі хоча і такім чынам, якім захоча.

Слушна часам называюць семінарыю "Школай Хрыста"! Тут кандыдаты на святарства пад кіраўніцтвам рэктара і разам з ім ды іншымі чальцамі семінарыйнай супольнасці штодня з'яднаныя моцаю Духа Святога братэрскімі повязямі, згодна з атрыманым дарам імкнуцца ўзрастаць у веры і любові, моляцца, чытаюць і разважаюць над Божым словам, каб працягваць збаўчую прысутнасць Хрыста ў Касцёле і ў гісторыі.

Святы Павел, які стаў апосталам Езуса Хрыста, хоць у пэўным часе нават быў Яго ворагам, напісаў, што можа ўсё ў Тым, Хто яго ўзмацняе (пар. Флп 4, 13). Гэтыя словы варта аднесці да семінарыйнай фармацыі. Кожны семінарыст і святар могуць даць шмат сведчанняў пра тое, што як перад прыняццем рашэння ісці ў семінарыю, так і на працягу падрыхтоўкі да святарства і святарскага служэння ёсць такія сітуацыі, калі Сам Бог дапамагае і дадае сіл! Нельга таксама забываць, што вельмі часта чалавеку перашкаджае страх перад будучыняй, асабліва, калі яна здаецца вельмі складанай. Ідучы ў семінарыю ці кляштар, вернік крочыць за Хрыстом, таму ніколі не застанецца адзін, і заўсёды моц Духа Святога і ласка Божая будуць яму дапамагаць.

Варта яшчэ дадаць, што не кожны можа быць святаром ці кансэкраванай асобай. Бог, выбіраючы чалавека на Сваё служэнне, дае яму ўсе неабходныя якасці і здольнасці для таго, каб той здолеў фарміравацца, вучыцца, а пазней выконваць даручаныя ў Касцёле заданні. Бог таксама заўжды шануе чалавечую свабоду і нікога не прымушае выконваць Яго волю. Не варта і "заахвочваць" ісці ў кляштар ці да святарства, абяцаць нешта дачаснае, прыцягваць! Магчыма толькі спадарожнічаць чалавеку, служыць парадай, падтрымкай і, канешне, малітвай. Езус, Які клікаў сваіх вучняў, забраў іх да Сябе, каб яны ўзрасталі ў Ягонай прысутнасці.

**На пытанне "Ці цяжка вучыцца ў семінарыі?" адказваюць навучэнцы Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі імя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску:**



**Дыякан Павел Трон, 6 курс, 26 гадоў:**

– На маю думку, фармацыя ў духоўнай семінарыі не вельмі лёгкая, аднак і не вельмі складаная. Мне здаецца, што тут вельмі важнае стаўленне да семінарыі: калі чалавек жадае вучыцца, то для яго не будзе вялікай праблемы для здабыцця ведаў і ўзрастання ў пакліканні. Аднак калі вучыцца не вельмі хочацца, то вучоба набывае свае цяжкасці, і як паўсюль. Таксама важным з'яўляецца мэта, дзеля чаго я вучуся: дзеля саміх ведаў альбо дзеля таго, каб дзякуючы гэтым ведам дапамагаць людзям. Калі ж гэта першы варыянт, то тады навука стане цяжарам. Калі ж другі – то навука мае свой смак. Такім чынам, магу сказаць, што вучоба, якая накіраваная на здабыццё ведаў пра Бога з мэтай падзяліцца гэтымі ведамі з іншымі і для свайго духоўнага ўзрастання, не з'яўляецца такой складанай, як гэта можа падавацца.



**Уладзіслаў Шаркевіч, 4 курс, 22 гады. Спалучае семінарыйную фармацыю з навучаннем у аўташколе:**

– Калі з Богам, то не цяжка. Калі з Богам крочыш наперад, хоць часам складана вучыцца або ёсць нейкія праблемы, то не цяжка.



**Яўген Баланеў, 4 курс, 42 гады:**

– Вельмі важна адпаведным чынам размеркаваць і выкарыстаць час. Калі чалавек мае добрую метадалогію, то тады наогул лягчэй, у семінарыі таксама. Я ўпэўнены, што Бог дапамагае, калі молішся і спадзяешся на Яго, а пры гэтым таксама прыкладаеш і свае намаганні. Хлопцы, не бойцеся ісці ў семінарыю!



**Уладзіслаў Козел, 1 курс, 18 гадоў:**

– Асабіста для мяне вучыцца не вельмі складана. Ёсць прадметы, якія даюцца лёгка, некаторыя больш складана. Калі ёсць інтарэс і імкненне, то вучыцца лягчэй. Семінарыя – не толькі мой выбар, але і прызванне з Божага боку. Калі Ён паклікаў, то мяркую, што пры Яго дапамозе змагу добра падрыхтавацца да святарскага служэння.



**Павел Сідарэнка, 4 курс, 21 год:**

Для мяне асабіста бываюць складаныя моманты, аднак я не апускаю рукі. Наогул, неабходна прыкласці намаганні не толькі да вучобы, але і да фізічнай працы, ці працы над сабою. Сам часта малюся да Панны Марыі і да св. Апостала Паўла з просьбай заступацца за мяне перад Богам. Яны пастаянна дапамагаюць!

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл

# ПАЗНАВАЙКА

## Зрабі маліну спелай

У малінцы знаходзяцца пустыя фрагменты, кожны з якіх патрэбна размаляваць толькі пасля таго, як выканаеш наступныя заданні. Адно заданне – гэта адзін пусты фрагмент.

1. Запрасі сябра ў касцёл на маёвае набажэнства.
2. Слухайся бацькоў.
3. Пачні дзень з малітвы “Вітай, Марыя”.
4. Будзь ветлівы з усімі знаёмымі.
5. У касцёле прыкладна сябе паводзь.
6. Разам з бацькамі вывучы верш або песню пра Марыю.
7. Памаліся Ларэтанскай літаніяй перад сном разам з усімі членамі сям’і



## Звярніся з просьбай да Нябеснай Заступніцы

На прыступках напішы свае просьбы, жаданні, з якімі звяртаешся да Бога праз заступніцва Панны Марыі



## Прачытай шыфраграму

Прачытай шыфраграму, падстаўляючы адпаведныя літары і даведайся, што з’яўляецца адной з найпрыгажэйшых малітваў на ўшанаванне Найсвяцейшай Панны Марыі. Адказ запішы.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| А | | Л | | Н | |
| Я | | Т | | С | |
| Р | | І | | | |
| К | | Э | | | |





## Падаруй кветкі Марыі

Намалюй прыгожыя кветкі ў руках хлопчыка і дзяўчынкі для Маці Божай.



## Выберы правільныя словы

Выберы толькі тыя словы, якія характарызуюць Марыю. Непатрэбнае закрэслі

злая
цудоўная
ласкавая
ганарыстая
верная
скваплівая
мудрая



## Абвядзі літары

Абвядзі кожную другую літару. Запішы атрыманае і даведаешся, хто для нас Марыя

ПМЛАВЦДІ ДНФАЛЙММТІФЛХЕЗЙВШРАЖЯ

## Адгадай мясцовасць

Выпішы літары толькі з сініх кветачак і даведайся, у якой мясцовасці нашай краіны знаходзіцца Нацыянальны санктуарый (святое месца) з цудадзейным абразом Маці Божай — апякункі Беларусі




*Мастачка:* **Вольга Будкіна;** *Ідэя:* **Ірына Грэйць**

## Як правільна па-беларуску: "ЗГОДНА ПАСТАНОВЫ ЎРАДА" ці "ЗГОДНА З ПАСТАНОВАЙ УРАДА?"

Абедзве названыя канструкцыі з'яўляюцца высокачастотнымі, асабліва ў сродках масавай інфармацыі. Выкарыстоўваюцца яны, як правіла, у афіцыйна-справавым і публіцыстычным стылях. Але каторае з іх правільнае? Ці, можа, абодва з'яўляюцца нарматыўнымі? Паспрабуем разабрацца.

У розных перыядычных выданнях ужываюцца канструкцыі з прыназоўнікам **"згодна"**: ***Згодна неафіцыйнай інфармацыі****, інцыдэнт здарыўся, як на цягнік селі два чалавекі ў камуфляжы з сімволікай спецназа* (Наша ніва, 14.09.11); ***Згодна вынікаў*** *штогадовага раённага агляд-конкурсу, былі ўзнагароджаны чатыры лепшыя спартоўцы года Глыбоцкага раёна...* (Вольнае Глыбокае,24.05.12);***Згоднададзенага нам задання****, яблыкі здаём на Шаркоўшчынскі гароднінасушыльны камбінат...* ***Згодна Указа****, на нарыхтоўку дзяржава выдзеліла паўтара мільярда рублёў...* (Веснік Глыбоччыны, 20.08.14). Як бачна, аднатыпныя спалучэнні выкарыстоўваюцца сапраўды ў розных выданнях. Але ва ўсіх прыведзеных выпадках дапушчана сінтаксічная памылка, гэта значыць,словазлучэнні пабудаваны няправільна, на рускамоўны ўзор.

Прыназоўнік **згодна**, ужываючыся ў складзе пэўнай сінтаксічнай канструкцыі, рэалізуе ў кантэксце значэнне *"ў адпаведнасці з чым-небудзь"* і дапаўняецца простым невытворным прыназоўнікам **з – згодна з** (з чым-небудзь). На гэта ўказвае і "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (ТСБЛМ, Мінск, 1996, с. 238). Таму ў пададзеных вышэй мікракантэкстах павінна было быць *згодна з неафіцыйнай інфармацыяй, згодна з вынікамі, згодна з дадзеным нам заданнем, згодна з Указам.* Падобным жа чынам па-беларуску будуюцца і спалучэнні кшталту *ў адпаведнасці з заканадаўствам* (а не *адпаведна заканадаўству*), *у адпаведнасці з прынятым рашэннем* (а не *адпаведна прынятаму рашэнню*). І, безумоўна, правільна па-беларуску **згодна з пастановай урада**, а не *згодна пастановы ўрада*.

***Юрась Бабіч****,*
*кандыдат філалагічных навук*

## Лере Квашниной очень нужна Ваша помощь

**Немного из истории**

Заболела Лера в 7 лет. Случайно заметили, что не видит девочка одним глазом, все попытки помочь ей в Беларуси были безуспешные. Единственная клиника в Уфе из огромного количества, куда мы обращались, взяла ее на лечение. После первой операции случилось чудо: Лера прозрела, удалось вернуть совсем маленькую капельку зрения, далее предстояли операции по улучшению сетчатки, около 15 операций, и мы почти достигли порога в 50 процентов зрения. Но нас настиг переходный возраст, которого было не избежать, и случилось самое опасное: ударило по второму, здоровому глазику, и вновь началась борьба. Рецидивы повторялись со скоростью, и уже мы думали не о восстановлении зрения, а чтобы только не потерять и уже ни на одном глазике, а на обоих.

Было очень страшно и больно. Лера все терпела и старалась не показывать свою детскую душевную и физическую боль, ее мечтой было только бы остановить все обострения и чтобы никогда они не повторялись. Но они возвращаются, и мы начинаем путь по-новому!

За 8 лет наша дочь перенесла более 25 операций на глазках, каждый раз это неподъемная для нас сумма и жизнь как на пороховой бочке. Не знаешь, когда и что может случиться. Совсем недавно мы вернулись с неплановой операции при обострении, летом нам снова ехать уже на плановые. И снова нужны деньги, это порядком 150 тыс. российских рублей с перелетом, медикаментами и оплатой клиники. Мы выбились из сил, и заработать за три месяца просто невозможно, а кроме Леры у нас еще двое деток.

По прогнозам врачей все должно остановиться, как только пройдет переходный период. И должна наступить полная ремиссия. А пока мы не можем оставить все, нам нужно спасать глаза дочери.



И мы очень просим редакцию опубликовать наше письмо. Возможно, найдутся те, кто сможет нам оказать помощь.

**Благотворительные счета открыты в центре банковских услуг №106**

Беларусбанк, г.Береза, ул.Кирова, 4;
УНП 200095969; МФО 150501237:

бессрочный – **белорусские рубли** – транзитный счёт №3819382117500 на благотворительный счёт №000018;

в центре банковских услуг № 106, бессрочный – **доллары США** – транзитный счёт №3819382117526 на благотворительный счёт №000040;

в центре банковских услуг № 106, бессрочный – **евро** – транзитный счёт №3819382117526 на благотворительный счёт №000002.

**Назначение платежа:** на счет Квашниной Ольги Ивановны для лечения и консультации дочери **Квашниной Валерии Евгеньевны** за границей.

EasyPay №02959650
Номер для пополнения: МТС 295281480
ул. Свидинского, д. 5 кв. 4
225215
г. Белоозерск Березовский р-н
Брестская обл. Беларусь

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**22 мая 2016 г.**

***Ян 16, 12-15***

Божая справа збаўлення чалавека не закончылася момантам яго стварэння. Збаўленне чалавека не закончылася таксама і ў хвіліну ўзыходжання Езуса на неба. Божая справа нашага збаўлення працягваецца ў нашых сэрцах дзякуючы дзеянню Святога Духа. Святы Дух вядзе нас да дасканаласці, да праўды. Людзі не заўсёды ўсё разумеюць. Так было раней і так ёсць цяпер. Бог выхоўвае нас. Бог, прысутны ў нашых сэрцах, перамяняе нас, калі мы супрацоўнічаем з Ім.

*– Ці ведаю, што Бог Адзіны ў Трох Асобах?*

*– Ці маю дастаткова ведаў пра гэту таямніцу нашай веры?*

*– Ці памятаю, што, маючы справы з Богам, маю справы з Тым, Хто з'яўляецца Таямніцай і Хто раскрывае Свае таямніцы перад чалавекам?*

*– Ці не думаю, што здолеў зразумець Бога сваім малым чалавечым розумам?*

*– Ці задумваўся я над тым, што гэта значыць: Бог мяне стварыў, даў мне жыццё, клапоціцца пра мяне?*

*– Ці з'яўляецца Бог для мяне Айцом?*

*– Ці задумваўся над тым, што гэта значыць: Бог стаў маім Братам, такім чалавекам, як і я?*

*– Езус – мой Збаўца?*

*– Ці разумею, што Бог – гэта нябачны Святы Дух, Які магутна дзейнічае ў маім жыцці?*

*– Ці дазваляю Богу сябе асвячаць?*

*– Ці ўспамінаю, жагнаючыся, пра прысутнасць Бога Айца і Сына і Святога Духа ў вышыні і побач са мной?*

**29 мая 2016 г.**

***Лк 7, 1-10***

Слова Езуса мае такую вялікую моц, што аздараўляе нават на адлегласці. Можаш прасіць у Езуса заступніцтва за іншых людзей. Калі жывеш мудра, то жыццёвы вопыт дапамагае чалавеку з адкрытым сэрцам убачыць і зразумець Божыя справы. Вера развіваецца ў сэрцы пакорнага чалавека, такога, як сотнік: "Я не варты, каб Ты прыйшоў да мяне..." Святым чалавека робіць не яго дасканаласць. Гэта слова Езуса прыносіць аздараўленне. А аздароўлены Божым словам чалавек становіцца святым і падобным да дасканалага Езуса.

*– Ці веру я ў тое, што сказаў Езус?*

*– У якіх справах майго жыцця мне найцяжэй згадзіцца з Езусам?*

*– Ці не лічу я сябе разумнейшым за Бога?*

*– Ці шукаю разумення складаных пытанняў свайго жыцця ў Божым слове, у навуцы Хрыста?*

*– Ці шукаю аздараўлення, суцяшэння і шчасця ў Бібліі?*

*– Ці памятаю, чытаючы Божае Слова, што праз Яго да мяне гаворыць Жывы Бог?*

*– Ці раблю намаганні, каб знайсці ў Бібліі слова для сябе?*

*– Ці не чытаю Божага слова павярхоўна, не суадносячы Яго са сваім жыццём?*

**5 чэрвеня 2016 г.**

***Лк 7, 11-17***

Праз уваскрашэнне юнака Езус паказвае, што дзейнічае ў Імя Божае. Ён Бог-Пан, так названы аўтарам Евангелля, мае ўладу над смерцю. Ён дакажа гэта Сваім Змёртвыхпаўстаннем. Дзеянні Езуса прыяўляюцца тыпова для Евангелля Святога Лукі "Крокі міласэрнасці". Езус убачыў няшчасце, пашкадаваў, не прайшоў міма, асабіста дакрануўся да чужой бяды. А ажыўляе Яго слова.

*– Ці заўсёды памятаю, што Езус – гэта Жывы Бог, а не міфічны герой?*

*– Ці ўсведамляю, што вера – гэта не ідэалогія, а жывая сувязь з Жывым Богам?*

*– Ці памятаю, што міласэрны Бог заўважае кожную бяду?*

*– Ці веру, што Бог шкадуе мяне ў маім няшчасці?*

*– Ці веру, што Ён не пройдзе абыякава і каля маёй бяды?*

*– Ці дазваляю Яму дакрануцца да балючых месцаў майго жыцця?*

*– Ці размаўляю з Ім пра іх?*

*– Ці прашу, каб штосьці параіў?*

*– Ці шчыра спавядаюся?*

*– Ці веру ў аздараўляльную моц Яго Слова?*

*– Як я паводжу сябе ў адносінах да чалавечай бяды? Ці так, як Езус?*

**12 чэрвеня 2016 г.**

***Лк 7, 36-50***

Бывае, што, як фарысей, хочам сябраваць з Езусам. Але так асцярожна, памяркоўна, акуратна. Тым часам Езус запрашае нас не да акуратных адносін з Сабой, а да вялікай любові. Кожны, хто з перакананнем і адвагай кідаецца ў абдымкі да Хрыста, ніколі не расчароўваецца. Так, як грэшная жанчына, што атрымала адпушчанне грахоў. Паглядзі, Езус звяртае ўвагу на веру жанчыны. Бо гэта вера прыводзіць нас да адважных і рашучых учынкаў і крокаў і іх патрабуе. Памяркоўны фарысей аказваецца чалавекам, які з цяжкасцю разумее агонь любові.

*– Ці не з'яўляецца мая памяркоўнасць і разважлівасць замаскаваным праяўленнем недаверу, маладушнасці і баязлівасці?*

*– Ці магу, натхнёны Святым Духам, узяць на сябе з адвагай новае заданне, зрабіць штосьці незвычайнае?*

*– Ці веру, што Езус мне прабачае, лечыць і спадзяецца на мяне?*

*– Якая мая вера?*

*– Ці не з'яўляюцца галоўнымі прынцыпамі майго жыцця супакой і адсутнасць праблем, асабліва чужых?*

*– Ці памятаю, што я пакліканы да любові і да выканання Божай волі?*

*– Ці размаўляю з Богам пра сваю актыўнасць і яе маштабы?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***
*www. lyntupy.by*

# Тройца

**Словы:** Марыя Ючкавіч **Музыка:** Ганна Шакола

Dm A7 Dm A
1.Сла-віць зям-ля ўся цві-цен-нем і зе-лен-ню кож-най га-лін-кі.
Gm A C F
Трой-цу як на-ша збаў-лен-не сла-віць свет Бо-жы вя-лі-кі.
ПРЫПЕЎ: D D7 Gm C C7 F
Трой-ца свя-та-я, Ця-бе мы ўслаўля-ем, вя-дзі нас да ра-ю, Трой-ца свя-та-я,
Gm A7 Dm
Трой-ца свя-та-я, вя-дзі нас да ра-ю.

2. Бог моцны дае Свайго Сына
І мудрага Духа Святога.
Каб выбавіць нас ад правінаў,
Каб нас зберагчы ад злога.

Прыпеў.

3. Бог вечны! Адзіны ў Тройцы
Табе і хвала і пашана.
З Табою малітваю моцнай
Мы будзем навек паяднаны!

Прыпеў.

# Вітай, поўная ласкі, Марыя

**Словы і музыка:** кс. Сяргей Сурыновіч

1. Ня-бё-сы вы-шы-ла вяс-но-ю, у ко-лер пер-шых кве-так цвет.
Скра-пі-ла пра-гу сэрц ра-со-ю, га-ю-чай лас-кай цэ-лы свет.
Пр.: Ві-тай, поў-на-я лас-кі, Ма-ры-я.

2. Ляціць, буйнее, насычае
Любові з неба дзіўны пах.
Матуля Божая святая
Квітнее ў сваіх дарах.

3. Сусвет усмешкай наталіла,
У май прыбрала далягляд.
Каб Божа моц паўсюль іскрыла,
Расцвіў у душах Божы сад.

4. Суцешыць Маці ў патрэбе,
У Сына зноўдзе супакой.
Праз Духа да Айца ў небе
Прытуліць у журбе зямной.

# Нябесны Светач, Дух Святы

**Словы:** кс. Сяргей Сурыновіч **Музыка:** Таццяна Дарафеева

Пр.:Ня-бес-ны Све-тач, Дух Свя-ты, сый-
дзі з*ня-бё-саў, пас-пя-шы, з*вы-шынь спаш-лі сва-е да-
ры, зас-тань-ся лас-кай у ду-шы. 1.Стру-
мень, што ду-шы на-сы-ча-е, дар муд-рас-ці даз-воль спаз-
наць, каб Праў-да Бо-жа-я свя-та-я маг-
ла рас-ко-шай сэр-цаў стаць.

Рэфрэн:
Нябесны Светач, Дух Святы,
Сыдзі з нябёсаў, паспяшы!
З вышынь спашлі свае дары,
Застанься ласкай у душы.

1. Струмень, што душы насычае,
Дар мудрасці дазволь спазнаць,
Каб Праўда Божая святая
Магла раскошай сэрцаў стаць.

2. Агонь, што думкі ачышчае,
Дар розуму спасцігнуць дай,
Недаскаласць каб людзкая
Абвешчаны спазнала рай.

3. Прамень з ваблокаў прасвятлення,
Ласкава рады дар спашлі,
Па волі Божай каб стварэнне
Жыло пакорна на зямлі.

4. Далонь, што вернасць узмацняе,
Дар мужнасці пралі ракой,
Спакусаў д'ябла жарсць ліхая
Каб не валодала душой.

5. Пячаць, што моцаю сагрэта,
Умеласці дар ніспашлі,
Каб перамогшы марнасць свету,
Натхненнем Божым жыць змаглі.

6. Алей, што верай намашчае,
Падай пабожнасці свой дар.
Няхай імкнецца, узлятае
Малітва ўвысь прад Божы твар.

7. Нябесны Голуб, Бог спрадвечны,
Дар боязі нам удыхні!
Каб свет, абраўшы шлях бяспечны,
Перамагчы ўсе змог грахі.

# Памятаць пра традыцыі продкаў

У вёсцы Папшычы Глыбоцкага раёна 14 мая на ўрачыстасць Спаслання Святога Духа ў чарговы раз прайшоў абрад нашэння намёткі.

Рэпартаж пра гэта чытайце і глядзіце на нашым сайце **catholicnews.by**





Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2948

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3600 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 19.05.2016 г. у 08.51

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621
9 772224 962006
Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь